
Стасеў гурт з Ракавіч → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Айцец Уладзімір Масайла → 9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 10 (3173) Год LXII

Беласток, 5 сакавіка 2017 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)





# II Гайнаўскі марш памяці выклятых жаўнераў

**150-200 чалавек, як ацаніла паліцыя, прайшло па Гайнаўцы ў II Маршы памяці выклятых жаўнераў, які зладзілі «Нацыянальная Гайнаўка» і «ONR» Беласток. Выйшлі яны з-пад касцёла Узвышэння Святога Крыжа да Гайнаўскага дома культуры, праходзячы па дарозе непадалёк ад Гарадскога магістрата. Удзельнікі маршу не прайшлі каля Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, як планавалі яго арганізатары, бо каля сабора сабраліся ўдзельнікі легальнай маніфестацыі, сарганізаванай ініцыятывай «Грамадзяне РП», да якіх далучыліся ўдзельнікі і прыхільнікі «Антыфы». Паўстала тады небяспека сутыкнення іх з удзельнікамі II Маршу памяці выклятых жаўнераў і паліцыя не пусціла марш на вуліцу айца Антонія Дзевятоўскага, галоўнага будаўнічага гайнаўскага сабора, побач якой непасрэдна знаходзіцца Свята-Троіцкі сабор. У выніку марш пайшоў у наваколле ГДК іншай трасай, вакол Асяродка спорту і рэкрэацыі.**

Закалот вакол II Гайнаўскага маршу памяці выклятых жаўнераў пачаўся некалькі тыдняў таму. Яго прычынай стала не толькі асоба Рамуальда Райса «Бурага», адказнага за пацыфікацыю беларускіх вёсак на Падляшшы ў 1946 годзе, які падчас мінулагодняга маршу праслаўляўся на плакатах, але перш за ўсё траса сёлетняга маршу і час яго правядзення. Праваслаўныя жыхары Гайнаўкі, але таксама многія яе жыхары каталіцкага веравызнання, сталі крытыкаваць трасу II Гайнаўскага маршу памяці выклятых жаўнераў, які быў запланаваны на 26 лютага і меў прайсці з-пад касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў Гайнаўцы, каля Свята-Троіцкага сабора і закончыцца непадалёк ад сабора, насупраць Гайнаўскага дома культуры. Крытыкаваўся таксама час правядзення маршу, калі праваслаўныя вернікі ў Нядзелю прабачэння правінаў мелі маліцца ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы падчас спецыяльнай вячэрняй багаслужбы перад Вялікім постам. Эмоцыі не сціхалі аж да пачатку правядзення маршу, а нават узмацняліся заявамі аб контрманіфестацыі.

Апеляцыйны суд у Беластоку 23 лютага падтрымаў пастанову Акруговага суда ў Беластоку і адмяніў забарону бургамістра Гайнаўкі арганізаваць марш. У пастанове суда паведамляецца, што права на дэманстрацыі і выяўленне сваіх поглядаў можа абмяжоўвацца толькі ў абсалютна выключных абставінах. Бургамістр Гайнаўкі **Ежы Сірак** сказаў, што рашэнне судоў прымае да рэалізацыі, але яны супярэчаць волі выдатнай большасці жыхароў Гайнаўкі. У такой сітуацыі Гарадская ўправа разам з паліцыяй будзе рыхтавацца да II Гайнаўскага маршу памяці выклятых жаўнераў, каб падчас яго жыхары былі бяспечнымі. Настаяцель Свята-Троіцкага прыхода мітрафорны протаіерэй **Міхаіл Негярэвіч** яшчэ ў пятніцу паінфармаваў, што ў Нядзелю прабачэння правінаў вячэрняя багаслужба з чынам прабачэння пачнецца адразу пасля другой літургіі, прыблізна ў палове дванаццатай гадзіны дня, а не ў сямнаццаць гадзін пасля абеду, як адбывалася заўсёды. Змена абгрунтоўвалася запланаваным на час вячэрняй багаслужбы пачаткам маршу ў гонар выклятых жаўнераў, які меў бы праходзіць падчас багаслужбы якраз каля сабора. Ужо пасля другой літургіі айцец Міхаіл Негярэвіч сказаў, што рашыўся змяніць тэрмін пачатку багаслужбы, апасаючыся, што вернікі могуць апынуцца ў небяспецы, калі будуць выходзіць з сабора. Прыблізна ў гэтым часе меў праходзіць каля сабора II Гайнаўскі марш памяці выклятых жаўнераў або ўжо яго ўдзельнікі маглі быць каля дома культуры, таксама непадалёк гайнаўскага сабора. Тады каля сабора мела адбыцца контрманіфестацыя і таму айцец Міхаіл пасля багаслужбы параіў заставацца дома, каб не папасці ў нейкія небяспечныя абставіны. У канцы багаслужбы сабраныя ў саборы падыходзілі да святароў і прасілі ў іх прабачэння правінаў, а свяшчэннікі прасілі прабачэння правінаў у вернікаў. Прысутныя ў саборы бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак і віцэ-бургамістр **Андрэй Скепка** станоўча ацанілі рашэнне настаяцеля. Віцэ-бургамістр Андрэй Скепка ўдакладніў, што апрача II Гайнаўскага маршу памяці выклятых жаўнераў, адбудзецца легальная маніфестацыя згуртавання «Грамадзяне РП», на якую атрымалі яны згоду Ваяводскай управы. У Гарадскую ўправу ў Гайнаўцы была пададзена заява на атрыманне дазволу на маніфестацыю ад «Антыфы», але было ўжо запозна, каб можна было выдаць згоду на такую маніфестацыю. Гайнаўскі стараста **Міраслаў Раманюк** заявіў у саборы, што марш памяці выклятых жаўнераў і іншыя такія маніфестацыі славы Гайнаўскаму павету не прынясуць і павінен ён рэкламавацца іншымі спосабамі.

— Прыязджаюць да нас людзі звонку, каб ісці па Гайнаўцы ў маршы, хаця нас гэты марш не цікавіць і мы апошнюю частку дня правядзем дома, — сказаў мужчына сярэдняга ўзросту, а іншы дадаў: — Гайнаўка — спакойны горад, а марш выклікае непатрэбныя эмоцыі.

Пасля шаснаццатай гадзіны каля Свята-Троіцкага сабора сталі збірацца ўдзельнікі маніфестацыі ініцыятывы «Грамадзяне РП», а вакол іх стаяла паліцыя, якая мела іх ахоўваць. Мэтай гэтай маніфестацыі было аказанне падтрымкі жыхарам Гайнаўкі, якія выказаліся супраць II Маршу памяці выклятых жаўнераў. Пасля аказалася, што сабралася іх некалькі дзясяткаў чалавек. У гэтым самым часе ў парку, каля будынка Гарадской управы сталі збірацца антыфашысты. Прыхільнікі «Антыфы» прыбылі са Шлёнска, Беластока, Варшавы. Прадстаўнікі «Антыфы» яшчэ раней заяўлялі, што хочуць блакіраваць марш і сарганізуюць свой марш памяці ахвяр атрада Рамуальда Райса «Бурага». Паколькі членаў і прыхільнікаў «Антыфы» было мала, перабраліся яны ў наваколле сабора і далучыліся да легальнай маніфестацыі ініцыятывы «Грамадзяне РП».

II Гайнаўскі марш памяці выклятых жаўнераў пачаўся з невялікім спазненнем, а яго арганізатары наперадзе маршу паставілі рэканструкцыйную групу. Аднак ізноў рашыліся, так як было ў мінулым годзе, узвялічваць асобу Рамуальда Райса, псеўданім «Буры», якая выклікае многа эмоцый у жыхароў Гайнаўкі, паколькі яго атрад пацыфікаваў беларускія вёскі ў 1946 годзе. Выява Рамуальда Райса паявілася падчас маршу на транспаранце з надпісам «Чэсць і хвала богатэром», побач Дануты Седзікуўны «Інкі» і некаторых іншых выклятых жаўнераў. Яшчэ перад маршам члены ONR пераконвалі журналістаў, што «Буры» гэта герой, бо суд прызнаў яго невінoўным. Спачатку ўдзельнікі маршу, перш за ўсё маладыя мужчыны, стаялі на дарозе каля касцёла Узвышэння Святога Крыжа, падрыхтаваныя да шэсця, а на тратуарах вакол іх стаялі жыхары Гайнаўкі — некалькі дзясяткаў чалавек. У пэўны момант мужчына сярэдняга ўзросту выйшаў з сярэдзіны тратуара наперад і штораз галасней стаў паўтараць удзельнікам маршу: «Вас мелі быць тысячы, а дзе яны?». Складана было палічыць удзельнікаў II Маршу памяці выклятых жаўнераў, але паліцыя акрэсліла іх колькасць на 150-200 чалавек. Паліцыянтаў было многа, бо і паявілася пагроза сутыкнення маршу з контрманіфестацыяй. Паліцыянты хадзілі непадалёк маршу, а калі ён рушыў ішлі вакол яго і сядзелі ў машынах. Удзельнікі маршу неслі бел-чырвоныя сцягі, сцягі з сімвалам ONR, а спераду неслі плакат, дзе на бел-чырвоным фоне быў надпіс «Гайнаўка». Па тратуары побач маршу ішлі гайнавяне, сярод якіх былі таксама старэйшыя жанчыны і мужчыны. Удзельнікі маршу сталі голасна ўскрыкваць лозунгі: «Армiё выклента — Гайнуфка о вас памента», «Велька Польска хшэсьціяньска», «Чэсьць вашэй паменці — жолнежэ выклenці» і іншыя. Па тратуарах ішлі таксама асобы, якія аказвалі свой супраціў маршу. Заўважыў я трох дзеячаў Камітэта абароны дэмакратыі, якія неслі лозунг «Буры — не наш герой». Калі ўдзельнікі маршу крыкнулі «Буры — наш богатэр», з тратуара можна было пачуць «Ганьба». Паліцыя не пусціла Марш памяці выклятых жаўнераў на вуліцу айца Антонія Дзевятоўскага, галоўнага будаўнічага гайнаўскага сабора, побач якой непасрэдна знаходзіцца Свята-Троіцкі сабор, як планавалі раней ісці арганізатары маршу. Марш пайшоў у наваколле ГДК іншай трасай, вакол Асяродка спорту і рэкрэацыі.

Каля сабора ўдзельнікі легальнай маніфестацыі ініцыятывы «Грамадзяне РП» і прыхільнікі «Антыфы» — некалькі дзясяткаў чалавек — трымалі ў руках белыя ружы і плакаты з надпісамі «Буры — не ёсць героем» і «Мая айчына — чалавецтва». Сабраныя крычалі «Памятайма аб ахвярах Бурага».

Паліцыянты, каб прадухіліць сутыкненне ўдзельнікаў маршу з контрманіфестацыяй, памянялі трасу маршу. Перад ГДК успыхнула некалькі факелаў, перад удзельнікамі шэсця коратка выступілі лідары арганізатараў маршу, пасля чаго ўдзельнікі шэсця сталі разыходзіцца. Паліцыянты стараліся не дапусціць да сутыкнення іх з контрманіфестантамі, што стаялі каля Свята-Троіцкага сабора, якія пасля таксама сталі разыходзіцца.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# Гісторыя па коле

Не пакідае адчуванне цыклічнасці гісторыі. Тыя падзеі, якія адбываюцца зараз у Беларусі, вельмі нагадваюць час трыццацігадовай даўніны і дазваляюць меркаваць, што яна развіваецца якраз па спіралі. Шкада толькі, што нам, хто памятае час скананння Савецкага Саюза, зараз не па дваццаць гадоў, а па пяцьдзясят і больш...

Люты — звычайна спакойны месяц у сэнсе грамадскай актыўнасці. Абуджэнне часцей надыходзіць увесну, аднак на гэты раз працэс пайшоў хутчэй. На пляцы розных беларускіх гарадоў павалілі людзі, прычым пайшлі туды стыхійна, спантанна і неарганізавана. Мусіць перасталі верыць тэлевізару, у якім апавядаецца пра сацыяльны рай у Беларусі. А кропляй, што перапоўніла чашу, здавалася б, бясконцага цярпення, стаў падатак на так званых „дармаедаў" — на людзей, якія насамрэч у пераважнай большыні цяжка працуюць, забяспечваюць сваіх блізкіх і выжываюць насуперак дзеянняў і палітыкі нядбайнай дзяржавы. Больш таго, яны памагаюць і сваім сем'ям, і хай не наўпрост, але спрыяюць краіне ў няпростай эканамічнай сітуацыі. Але дзяржаўнаму ненажэрнаму чэраву ўсё мала. Велізарны штат дзяржаўных чыноўнікаў, сярод якіх асабліва трэба вылучыць разнастайных прапагандыстаў, ідэолагаў, а таксама процьму сілавых структур — вось дзе сапраўдныя дармаеды на шыі народа. Але людзі больш трываць не хочуць і дзяржава зараз узяла паўзу, не ведае, што рабіць — ці размахваць далей сваёй карнай дубінай, ці... А зрэшты яны толькі і ўмеюць, што дубінай, на нейкае рэфармаванне і эвалюцыю няздольныя. Але калі на вуліцы выходзіць ужо не пару соцень актыўных апазіцыянераў-іншадумцаў, а тысячы ўчарашніх „нейтралаў" — то дзяржава пачынае баяцца. А паколькі яе кіраўнік знік на нейкім чарговым загадкавым адпачынку, то і галоўнага рашэння прыняць няма каму. Але можна не сумнявацца, што сапраўднае аблічча гэтая дзяржава яшчэ пакажа. Як шчыра і выразна паказаў яго начальнік усёй міліцыі Рэспублікі Беларусь Ігар Шуневіч. На пытанне, чаму ён на 9 мая апранае мундзір афіцэра НКВД (перакладаць гэтую жудасную абрэвіятуру на нашу мову не трэба!), ён наўпрост адказаў, што ганарыцца сваімі папярэднікамі — „сотрудниками органов внутренних дел", якія змагаліся з узброенымі бандамі і нацысцкімі недабіткамі пасля вайны. Пра тое, што людзі ў гэтай форме найперш знішчалі, расстрэльвалі дзясяткі тысяч ні ў чым невінаватых суграмадзян, міністр унутраных спраў сціпла прамаўчаў. Але і так усё зразумела пра яго ідэалы.

Іншая гарачая тэма — гэта абарона Курапатаў. Пакуль адны мужыкі, якія ніяк не могуць пазбыцца савецкай традыцыі, жлукцілі гарэлку ў „дзень зашчытніка ацечаства", іншыя, пераважна маладыя хлопцы, кінуліся бараніць мемарыяльнае месца ад незаконнай будоўлі. Абарона Курапатаў — гэта не проста абарона памятнага месца. Гэта абарона нашай гістарычнай памяці, беларускай нацыянальнай годнасці, чалавечай вартасці. І вось тут міліцыя не прыходзіць на дапамогу. Наадварот, арганізоўвае правакацыі альбо патурае ім. Але грамадства ўжо абуджаецца. Мабыць, упершыню супраць апаганьвання незаконным будаўніцтвам ахоўнай тэрыторыі выступілі святары ўсіх асноўных канфесій. І ужо нават дзяржаўныя прапагандысты сталі казаць пра тое, што Курапаты трэба пакінуць у спакоі.

У кожнага свая памяць і свае героі. Памяць Шуневіча наказвае яму пакланяцца савецкім антыбеларускім праваднікам, памяць беларусаў — іншая. У 1988 годзе ў газеце „Літаратура і мастацтва" быў надрукаваны артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва „Курапаты — дарога смерці", які выклікаў шырокі грамадскі рэзананс. Пасля гэтага ў Менску былі ўтвораны рэспубліканскае грамадскае гісторыка-асветнае таварыства памяці ахвяр сталінізму „Мартыралог Беларусі" і аргкамітэт Беларускага народнага фронту „Адраджэньне". Неўзабаве прайшоў ужо легендарны мітынг-рэквіем „Дзяды", які быў гвалтоўна разагнаны сілавымі структурамі. Менавіта тады вырас свядомы арганізаваны беларускі палітычны рух, вынікам якога стала заваёва суверэнітэту.

Сённяшняя ўлада аднаўляе помнікі крывавым бальшавікам. А ў Курапатах паўстаў сапраўды народны крыжовы мемарыял, які бароніць беларускі народ. Такая праўда, такая хада нашай гісторыі.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Архіпатрыятызм



Любоў да Радзімы сапраўдная тады, калі яна сціплая. Калі яна становіцца гучная і гаманкая, трэба пільна азірацца па баках. Можа хтосьці ўсчынае псеўдапатрыятычны гам, каб схавацца за ім са сваімі эгаістычнымі мэтамі. Незалежна ад таго, вялікія яны ці малыя. Але эгаістычныя яны, таму што вымяраюцца толькі маштабам уласнага задавальнення. Чаму і для чаго, гэта ўжо іншая гісторыя.

Ёсць некаторыя словы з незаплямленым значэннем. Пры ўмове, аднак, што пра іх сэнс клапоцяцца ў паўсядзённых паводзінах. У дзеянні не напаказ, не для галачкі. Не пад звон, не пад свята. Скажам, «патрыятызм». Або «Бог». Злоўжыванне імі прыводзіць да дэградацыі сэнсу, які ў сабе маюць. Чалавека веры не робіць слова «Бог», пастаўленае па ўсіх склонах і пры любых нагодах, а патрыёта — пустая дэкларацыя любові да Айчыны, запоўненая парожнімі знявагамі і бязсместавай нянавісцю. Шчырая рэлігійнасць патрабуе, каб не злоўжываць імя Бога дарэмна. Нават для атэіста слова «Бог» з'яўляецца важкім, таму што на яго аснове будуе свой асабісты погляд на свет. Патрабуючы павагі да сваіх перакананняў або рацый, трэба паважаць супрацьлеглую пазіцыю. Патрыятызм мае не адно імя. Любоў да Айчыны можа выяўляцца па-рознаму. Успрыманне карысці іншых, добрасумленная праца гэта таксама патрыятызм. На жаль, гэта слова сёння становіцца ўсё больш шаблонным, паношаным. Таму лёгка даклейваюцца да яго ксенафобія, нацыяналізм, расізм ...

Патрыятызм, калі зашмат размоў пра яго, становіцца свайго роду формай селебрыцкай фігуры. Згодна класічнаму вызначэнню, селебрыці становіцца той, пра каго, для яго вялікага задавальнення, бесперапынна балбочуць. Добра, калі добра, але добра нават калі блага. Чым большы падзел паміж прыхільнікамі і антаганістамі знакамітасці, тым лепш для яе. Пускае тады яна цвет, як тая неіснуючая папарацькветка. Ну і нічога, што гэта проста фігура міфалагічнага апавядання. Ці яе дэміфалагічная контраповеду. Але гэта фігура: спрэчак, рознагалосся, антаганізму, а дакладней, з'яўляецца дакладна пазначанай, хоць бязсместавай формай, да якой можна аднесціся, прымеркавацца, параўнаць. Хто з пагардай, а хто з захапленнем. У абодвух выпадках прыгадвае гэта пустое выкручванне перад люстэркам. У любым выпадку, знакамітасць якую занядбоўваюць адны а іншыя ёй б'юць паклоны, нягледзячы на — гэта становіцца міфам грамадскага дыскурсу. Толькі, далібог, які гэта ўзровень?!. А які гэта ўзровень грамадскага дыскурсу, калі такі ісцуе, наконт патрыятызму?

Неадназначна вызначаны патрыятызм, які з'яўляецца флагманным лозунгам цяперашній улады, стаў селебрыці яе палітыкі — я не ўпэўнены, ці палітыкі мэтанакіраванай, усведамляючай свае мэты, ці выпадковай. Таму што калі бягучая палітыка мае абапірацца толькі на антаганізаванне грамадскасці, дзяленне яе на лепшы і горшы сорт, на паноў і хамаў, дык тут не бачу ніякай мэтанакіраванасці. Ну, хіба што яна імкнецца толькі да дэканструкцыі грамадзянскага, значыць адкрытага, плюралістычнага і ліберальнага грамадства. Толькі на якое іншае? Для некаторых панцсе дэканструкцыі, якая ўяўляе сабой сацыяльны працэс у часе, блытаецца з паняццем дэструкцыі — разбурэння. У дэканструкцыі важную ролю іграе пераконванне, у дэструкцыі — хапанне за морду. Праз такую невялікую памылку ідэі ператвараюцца ў ідэалогіі, грамадствы ў феадальныя калоніі мурашак.

Паняцце патрыятызму сігналізавалася ўжо ў палітычных падзеях канца васямнаццатага стагоддзя, цалкам сфармаванае ў дзевятнаццатым стагоддзі, калі звальваліся шматнацыянальныя манархіі. Умацавалі яго дзве сусветныя вайны XX стагоддзя. Дваццаць першае стагоддзе, стагоддзе постмадэрнізму і Уніі Народаў, гэтую фігуру моцна змяніла. Не толькі ў яе форме і змесце, што ў адносінах да ідэнтыфікацыі з'яднаных грамадстваў, а не нацыянальных дзяржаў раздзеленых межамі і палітычна-эканамічнымі інтарэсамі, якія зносяць адзін аднаго.

Да нядаўняга часу ў Польшчы гэтую фігуру, прыхарошаную сцягамі ЕС, насілі ў масавых падзячных шэсціях. Сёння прабуюць зваліць яе ў гразь. Затое выцягваюць з пыльнага архіва гісторыі патрыятызм рамантыкаў і містыкаў дзевятнаццатага стагоддзя. На самой справе гэтая фігура вельмі ж архаічная ў час планшэтаў і інтэрнэту.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# За гістарычную праўду — нашу і вашу? (3)

У гэты нумар «Нівы» не збіраўся я ўжо чарговы раз пісаць пра рознагалоссе звязанае з ацэнкай дзейнасці Рамуальда Райса «Бурага» ў дачыненні да беларусаў Падляшша ў пасляваенны перыяд. Падрабязнае апісанне ўсіх падзей, звязаных з гэтым закалотам, знаходзіцца на першай старонцы ў папярэднім і ў гэтым выданні «Нівы». Але колькасць вылітых у інтэрнэце слоў зняважлівасці і абразы паміж прыхільнікамі ІІ Гайнаўскага маршу памяці выклятых жаўнераў і яго праціўнікамі ўсіх нас павінна ўстрывожыць і прымусіць задумацца да чаго можа прывесці такая канфрантацыя ў грамадстве. Я сам асабіста не прысутны ў аніводнай інтэрнэтнай сацсетцы, але хапіла пачытаць агульнадаступнае і пабачыць тое, што паказалі сябры. Не хачу быць песімістам, але справа выглядае на абсалютна безнадзейную. Калі тыдзень назад спасляўся я на словы вядомага палітыка і музыкі Паўла Кукіза, які заклікаў, каб у дачыненні да некаторых выклятых жаўнераў, у тым і «Бурага» прыгледзяцца з большай асцярожнасцю, то Кукіза, як палітыка правых поглядаў, сустрэла такая хваля публічных абвінавачванняў з боку аднадумцаў, што пачаў і трашчаць ягоны грамадскі рух. Нават у час гайнаўскага маршу пры яго завяршэнні, адзін з лідараў і выступоўцаў Нацыянальна-радыкальнага лагера (Obozu Narodowo-Radykalnego, ONR) у вострых словах звярнуўся супраць менавіта... Кукіза. На сёння трэба выразна сказаць, што ў рамках новай гістарычнай палітыкі няма ахвоты і патрэбы ні ўдзельнікам і аніматарам прыслухоўвацца да расследаванняў гісторыкаў. З другога боку вядзе гэта нас, беларусаў, да доказвання тысячны ўжо раз даказанай гістарычнай праўды. Каб толькі не прыйшлося нам яшчэ даказваць, што мы не вярблюды. Напэўна бліжэйшыя гады будуць гарачымі ў польска-беларускіх гістарычна-палітычных дачыненнях. Але, як заўсёды, з характэрнай для беларусаў сістэмай адносін, магу толькі здагадвацца, якімі будуць украінска-польскія разборкі наконт гісторыі дваццатага стагоддзя. І ў беларускай наіўнасці пацяшаюцца шкалой іхніх праблем і ўзаемнай нянавісці. Але не выраша гэта, на жаль, набрынялай спадчыны кожнага з народаў.

Трэба выразна ясна сказаць, што зараз для многіх маладых людзей легенда пра іхніх аднагодкаў, якія семдзесят гадоў таму назад у няроўным баі змагаліся за Бога, Гонар і Айчыну, ахвяруючы часта найвышэйшай цаною — жыццём, вельмі прываблівая. І калі яны маюць яшчэ магчымасць у жывую сустрэцца з апошнімі, вынесенымі да агульнапольскай нацыятворчай ідэі, людзьмі, то справа, падбітая дзяржаўнымі, медыйнымі, адукацыйнымі эмоцыямі, з'яўляецца толькі адзінай, слушнай праўдай. Іншыя погляды не ўспрымаюцца як голас у дыскусіі, але як акт варожасці і знявагі для польскай дзяржаўнасці. І ў тым заключаецца яшчэ адна праблема на будучыню наконт адказнага патрыятызму маладых грамадзян Польшчы. З поўнай свядомасцю можна сказаць, што памяць пра выклятых жаўнераў гэта мадэльны прыклад таго, як умела запрэгчы гісторыю ў пабудову міфалагічна-нацыянальнай дзяржаўнай палітыкі. Ён ёсць між іншым вялікі тым, што можа быць расцягнуты на тэрыторыю ўсёй Польшчы, бо жаўнерызмагары з антыкамуністычнага польскага падполля дзейнічалі ва ўсёй краіне доўгімі гадамі. Таму, напрыклад, міф варшаўскага паўстання, легенды найбольшага нацыянальнага супраціву, пачынае саступаць менавіта выклятым жаўнерам. Бо і не той абсяг, і прызнанне варшаўскіх паўстанцаў адбылося гады таму. Выклятыя жаўнеры для польскай гістарычнай палітыкі з'яўляюцца сёння такім жа самым важным палівам, як для Другой Рэчы Паспалітай былі апошнія ўдзельнікі студзеньскага паўстання 1863 года. Для іх тады маладая і бедная дзяржава ўмела вярнуць гістарычную не толькі памяць, але і матэрыяльныя сродкі, уключна з распрацаваннай нават формай мундзіра паўстанцаў. Зараз таксама ўжо зацверджаны адзіны ўзор мундзіра выклятых жаўнераў. Як вядома ані ў адным, ані ў другім выпадку, не было магчымае, каб так, як у выпадку рэгулярнай арміі, мелі яны аднолькавую форму. Але менавіта гістарычная палітыка патрабуе і такіх дзеянняў.

**Яўген ВАПА**

Вёска Ракавічы безнадзейна загубленая сярод раўнін. А калісьці быў тут, як гавораць жыхары, цэнтр свету, пад самай сярэдзінай неба. Спявалі заўсёды. Летнімі вечарамі, багатымі на цвыркуноў, пры святах, у склепе паміж перарослай бульбай. Лаўрэаты Агульнапольскага фестывалю капэл і народных спевакоў у Казімежы стварылі непаўторны вобраз чарнарускай вёскі. Адміністрацыйна зараз прыпісана яна ў Ліпскую гміну, аўгустоўскага павета.


■ Злева: Зося, Стасё і Ганорця

# Стасеў гурт з Ракавіч

### Не Станіслаў, а Стасё

Вёска цягнецца ў бок беларускай мяжы, да якой стуль некалькі дзясяткаў метраў. Доўгая, але пустая, з драўлянымі хаткамі дзе-нідзе памаляванымі на прыкметны сіні колер. Не выглядае на мёртвую, чыстая, прыбраная, але людзей, як гавораць жыхары, няма. Каб перакanaцца, што ўсё-такі ў вёсцы жыццё яшчэ цепліцца, варта спыніцца пры Стасевай хаце. Калі каго-небудзь запытаеш пра Станіслава могуць не здагадацца. «Ніякі Станіслаў — Стасё, Стасько».

— Калісьці заехаў на выступ, там правяралі выступоўцаў. Я кажу: «Станіслаў з гуртам». А яны адказваюць: «Няма такога!». Я здзівіўся і пытаюся яшчэ раз: «Стася Райкоўскага няма?» — «А-а-а, Стасё ёсць!».

Мала таго, выпадкова сустрэты жыхар вёскі Канюшкі, якая 10 кіламетраў ад Ракавіч, быў упэўнены, што такой мясцовасці як Ракавічы тут няма.

— Тут Канюшкі, далей Старыя Канюшкі, — адказаў.

— А за Старымі Канюшкамі якая вёска? — пытаюся.

— Там дзесьці Ліпск, а тут... не знаю, я туды не езджу.

Далей не было патрэбы ездзіць. За Старымі Канюшкамі тутэйшых ад нязнанага, іншага аддзяляюць балоты і рака Бобра. Спрадвечная мяжа, перш за ўсё мяжа моўная і культурная.

„Pierwsza konkretna wiadomość o północno-wschodnim zasięgu Mazowsza pochodzi dopiero z 1325 r. Wówczas to książęta mazowieccy w liście do papieża Jana XXII podali, że Mazowsze sięga na odległość dwóch mil (około 15 km) od Grodna, co przekłada się na dział wodny górnej Biebrzy i Niemna lub na linię górnej Biebrzy. W tej funkcji rzeka ta aż po ujście Łeku lub Wissy pojawia się w opisach granicy mazowiecko-krzyżackiej z około 1342, przed 1343, w 1343 i około 1355 r." (*Granice mazowiecko-krzyżackie na Wysoczyźnie Kolneńskiej — problemy utrzymania*, „Rocznik Żyrardowski", 2008, t. 6).

Новая мяжа, усталяваная пасля Другой сусветнай вайны, адабрала ў Райкоўскіх не толькі частку суседзяў, але і 12 гектараў зямлі, за якую, як часта бывала ў прыгранічных падляшскіх вёсках, не атрымалі ніводнай кампенсацыі. Дарога на поле, якое засталося па другім баку, зарасла кустамі і ніяк не нагадвала старой, дзе ў добрыя часы Стасеў бацька пускаў свабодна сваіх коней. Ад боку мяжы пачаў падыходзіць гушчар, ствараючы дзікую запору. Ад даўніх лугоў аддзяляў сірочы палын і ўсюдыісная крапіва. Яшчэ доўгі час у летні вечар здавалася, што чуваць песні з-за мяжы. Ракавіцкіх спевакоў напэўна чулі, бо як падкрэслівае Стасё, ніводная бяда не спыніць іхняй самай надзейнай тэрапіі — спеву. Нават пахаваны, дзякуючы песням жыхароў вёскі, бываюць прыгожымі на свой спосаб.

— Ведаеце, у нашай вёсцы спяваюць пры памерлых, — кажа Райкоўская. — Тая традыцыя жывая. Памёр калісьці наш сусед, а яго сваячка пайшла ў манастыр у Гародню. Тая манашка прыехала яшчэ з іншымі сёстрамі — можа дзесяць іх было. Калі пачулі, як мы спяваем, усе пачалі плакаць, а пасля нам дзякавалі.

Сапраўды, спеў Райкоўскіх пераносіць у іншы свет, свет поўны духаў, у свет вяртаючыхся абрадаў, нанава здзейсненых рытуалаў і песні.

### Меладычнае саканне

— А ведае, што значыць пятух? — спытаўся Стасеў швагер, Янка. — Знаеце. Калісьці ўнук прыехаў і пытаецца: «Co to pietuch?». Я яму адказаў коратка: «Калі не ведаеш то і не даведаешся!».

Правільны адказ не толькі здзівіў Янку, але і адкрыў дзверы вялікага пакоя, дзе ўсе селі за стол накрыты ільняным абрусам. Кава, гарбата, *цястка са спудзельні*... і, вядома, песні. У Ракавічах усе igралі і ўсе спявалі. Пераказвалі сабе музыку з пакалення ў пакаленне, ніхто не змог гэтай музыкі ўкрасці. Так жыхары гулялі з арнаментацыяй мелодыі, што не было музыканта, які мог бы ў такі спосаб заспяваць.

— Мой бацька іграў на скрыпцы, — кажа Ганорця Райкоўская, Стасева жонка. — Дзядзька іграў на гармоніі. Славуты гарманіст быў, на цэлую ваколіцу. А спявалі тут усе.

Сястра Ганорці Райкоўскай, Зося, таксама спявае ў гурце. Жыве побач. Выйшла замуж за Янку, які наракае, што сёстры надта блізка сябе жывуць: «Увесь час пільнуюць, няма як са шваграм напіцца». Янка хаця не спявае ў сямейным калектыве, голас мае добры. «Яны баяцца таго, што я нарабіў бы ім там бяды на выступах, але не наракаю. Калі ўсе едуць на выступ, пільную дзвюх хат. А Стасё таксама з адной гарбатай не пакідае сваёй хаты».

Стасё, Ганорця, Зося, Галіна і наймалодшая Рэната — гэта цэлы сямейны пеўчы калектыў з Ракавіч. Хаця Стасё прывык называць яго «Стасё з калектывам». Добрага голасу нельга адмовіць усім членам гурту. Менавіта Стасё з'яўляецца яго заснавальнікам. Ад пачатку 1970-х гадоў працаваў у вясковым клубе, дзе ладзіў розныя сустрэчы, пры якіх сабраныя спявалі, успаміналі і вярталі даўнія абрады. Валокаў, хадзіў з Героdam, запісваў песні. Хаця Райкоўскія згодныя, што песень пачутых нават у дзіцячыя гады не забудуць. А ведаюць іх многа. Беларускіх навучыліся ад дзядоў, большасці польскіх — сёння, расійскіх — ад саветаў, якія хадзілі туды-сюды, а ўкраінскіх — самі не ведаюць ад каго. Проста ведаюць. Але ракавічаны ўсё-такі перарабілі тыя песні на «сваю маньку». І не з-за хітрасці, бо на фестывалі «Беларускай песні» выступілі толькі адзін раз, але от так складалася. Спявалі «Тэчэ вода каламутна», сакаючы характэрна для беларускіх гаворак гэтай тэрыторыі. Самі, калі выступаюць на фестывалі ў Казімежы, падкрэсліваюць, што прыехалі з Ракавіч — з Чорнай Русі.


■ На фестывалі ў Казімежы


■ Стасё Райкоўскі з уласнаручна зробленай гвяздай

### Песні да канца свету

Райкоўскія добра памяталі касцёл у Галынцы. У гэтым месцы чарговыя пакаленні хрысцілі дзяцей, прысягалі вернасць і развіталіся з памерлымі. Штотыдзень апухаў ён ад прыхаджан і перапаўняўся шчырымі песнямі жанчын. І здавалася, што лепш не можа быць, а нават калі можа, не павінна. Сталася інакш, чым усе маглі спадзявацца. Галынка засталася па беларускім баку, а жыхары Ракавіч сталі прыхаджанамі касцёла ў Рыгалоўцы.

— З майго боку папраўдзе ўсе былі праваслаўныя, — кажа Стасё. — Гэта мой бацька перайшоў на каталіцкую веру.

Але Райкоўскія не растрасаюць мінулага. Спяваюць. Гурт Стася з Ракавіч стаў у 1991 годзе лаўрэатам у катэгорыі вакальных калектываў на Агульнапольскім фестывалі капэл і народных спевакоў у Казімежы. Двойчы на тым жа фестывалі атрымалі другія месцы — у 2010 і 2016 гадах. Апошні поспех гэта II месца ў катэгорыі фальклорнай аўтэнтычнай песні на XXIV Фестывалі «Беларуская песня — 2017» у Беластоку.

— Калі мы заедзем у Казімеж, вядома, маем выступ на сцэне, — кажа Стасё. — Але колькі мы яшчэ паспяваем па вуліцах, з іншымі калектывамі... Там паліцыя не мае права нам перашкаджаць.

Стасё іншых удзельнікаў фестывалю ў Казімежы здзівіў частушкамі, якіх ведае сотні.

— Мяне нават там на вуліцы запісвалі, — смяецца.

У Райкоўскіх засталася спантаннасць. Ім не трэба вызначаць гадзіны ці месца, каб супольна паспяваць. Маёвыя набажэнствы да Божай Маці адпраўляюцца штогод. Літання, супольная малітва, а пасля да позніх гадзін песні і тусоўка па вёсцы.

— Да першай ночы спявалі, — успамінае Станіслаў.

Калі Райкоўскія спявалі пры стале, засланым ільняным абрусам, Янка хадзіў па хаце быццам бы было навошта. У канцы сеў на драўляным столку:

— Мяне парушаюць гэтыя песні да слёз.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

## Пацешылі...

З першага сакавіка пенсіянеры ды інваліды атрымаюць пераацэнку сваіх пенсій. На што могуць разлічваць сеніёры ад «добрай змены» сёлета? Паводле падпісанага ўказа міністр Альжбеты Рафальскай, сёлетняя пераацэнка складзе 100,44%. Аднак жа, згодна з адмененым законам аб пенсіях з фонду Сацыяльнага страхавання, пенсіённа-рэнтавая выплата будзе падбаўлена не менш чым да 10 злотых (з акрэсленым мінімальным стажам). Мінімальную прыбаўку 10 зл. атрымаюць усе пенсіянеры і інваліды, пенсія якіх не перавышае квоты 1 369,86 зл.

Паколькі атрымаўся ніжэйшы паказчык пераацэнкі, чым прадбачваўся, большая група пенсіянераў будзе ахоплена гарантаванай мінімальнай прыбаўкай пераацэнкі, паколькі будзе тычыцца выплачваных пенсій да сумы 2 272,73 зл. Сёлета колькасць асоб, якія пакарыстаюцца гарантаванай прыбаўкай пенсій (мінімальнай і 10 зл.) павысіцца з каля 2,1 мільёна да 5,2 мільёна чалавек.

## Аднолькавыя стаўкі

З пачаткам чэрвеня г.г. будуць адменены роўмінгавыя платы. Гэта абазначае, што аператары мабільнай сеткі не змогуць налічваць дадатковых коштаў за замежныя спалучэнні таму, што вызначаны цвёрдыя аптовыя стаўкі для аператараў. Так рашылі камерсанты Рады ЕС і еўрасаюзных дзяржаў. У адпаведнасці з інфармацыяй Рады ЕС магчыма, што стаўкі панізяцца да 90% ад цяперашніх. Ад 15 чэрвеня максімальная стаўка за размову панізіцца з 0,05 еўра да 0,032 еўра за мінуту. Затым кошт эсэмэсак панізіцца з 0,02 да 0,01 еўра. Важная вестка для карыстальнікаў смартфонаў — аплаты за трансляцыю даных таксама зменяцца. Паніжэнне будзе значнае, бо з 50 еўра да 7,7 еўра за гігабайт. Затым, у наступным годзе, напрыклад, аплата будзе складаць не 7,7 еўра за гігабайт даных, толькі 6 еўра. Штогод будзе паніжацца на 0,5 еўра так, каб у 2022 годзе раўнялася адно 2,5 еўра за гігабайт даных. **(ус)**

## Пераможцы ведаў пра праваслаў'е

Артур Малеш з II Агульнаадукацыйнага ліцэя Беластока стаў пераможцам агульнапольскай Алімпіяды праваслаўных рэлігійных ведаў. У фінале конкурса на пытанні, звязаныя з тэалогіяй і гісторыяй хрысціянства, адказвалі 28 чалавек з Беластока, Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі і Сямятыч, Варшавы і Кашаліна. Сярод іх лаўрэатамі, якія набралі больш чым 70 адсоткаў, сталі 7 вучняў. Другое месца ў алімпіядзе заняла вучаніца Гайнаўскага ліцэя з беларускай моваі навучання Наталля Васько. Паводле яе слоў, канкурсанты мусілі перадусім валодаць ведамі аб праваслаўнай іканаграфіі: — Здаецца, што тэма лёгкая, бо кожны дзень праваслаўныя іконы з намі, але калі пачалі вучыць, то аказалася, што пытанні вельмі складаныя. Напэўна, найбольш складанай аказалася балканская іканаграфія, бо цяжка было знайсці пра яе інфармацыю.

Дзякуючы перамозе ў алімпіядзе, лаўрэаты маюць адкрытыя дзверы на некаторыя факультэты польскіх ВНУ. Без удзелу ў наборы яны могуць паступіць ва Універсітэт у Беластоку, Хрысціянскую тэалагічную акадэмію ў Варшаве ды Каталіцкі люблінскі ўніверсітэт.

**Лукаш ЛЕАНЮК racyja.com**



# Кожны пісаць можа

**...і не толькі ў Гарадоцкай гміне. На дзясяты выпуск літаратурнага конкурсу для аматараў, арганізаванага войтам, Гмінным цэнтрам культуры — Домам культуры імя Кастуся Каліноўскага ды літаратурнай групай «Каласы» (якая зноў мацуецца і яднае свае шэрагі) свае творы — паэтычныя і празаічныя — прыслалі аўтары можна сказаць што з усёй краіны. Праўда, сёлета было менш маладых аўтараў у конкурсе „Пісаць кожны можа” — толькі адна асоба ў катэгорыі вучняў пачатковай школы, а сярод гімназістаў — дзве асобы. У катэгорыі вучняў сярэдніх школ і дарослых — 17 аўтараў — разам дваццаць аўтараў прыслала свае вершы і прозу. У Гмінным цэнтры культуры ў Гарадку адбылося ўрачыстае як заўсёды падвядзенне вынікаў літаратурнай творчасці. На мерапрыемстве ў Дзень закаханых (бо найбольш было твораў пра любоў) прысутнічалі мясцовыя ўлады, аматары паэзіі з цэлай гміны, творцы ды іх суседзі і сябры.**



■ Янка Карповіч, Ганна Садоўская, Анатоль Парэмбскі, Крыстына Саўка на фоне партрэта Кастуся Каліноўскага

Журы ў складзе: філолагі Дарота Сульжык, Ірына Матысюк і Анна Гжэсь сярод гэтай групы вылучылі моцную жменьку аўтараў з Дому сацыяльнай апекі ў Ялоўцы, якія і прыслалі вельмі цікавыя творы, і прыгожа выступілі, як пан Тамаш Тварановскі, як схаваўся над псеўданімам «Самот» (II месца ў паэзіі) сваім кранальным творам «**Wołanie**». Янка Карповіч з творам «Забава на каляды» здабыў першае месца ў прозе. На першым месцы таксама вершы сатырыка і лірыка Янука Грыцука з Гарадка «Столак». У трэцяй катэгорыі трэцяе месца атрымаў твор — паэтычная проза — Дар'юша Жукоўскага з Велішэва пад Варшавай. Спецыяльнымі вылучэннямі сярод дарослых аўтараў адзначаны вядомыя чытачам «Нівы» нядаўняя дэбютантка Ганна Садоўская з Валіл-Двара за верш «А мне не трэба», мафусаіл сярод паэтаў Анатоль Парэмбскі з Валіл-Станцыі за верш «Ці ты знаеш» і Густаў Мішталь з Меляшкоў за верш «**W promieniach słońca**». Гэты новы пасяленец у старадаўняй беларускай вёсцы атрымаў яшчэ ва ўзнагароду кнігу меляшкоўца-нашаніўца Янука Дарашкевіча, які пісаў тут свае творы сто гадоў перад ім — пачытаць вершы Янука Густаву абяцалі суседкі, якія гурмой прыбылі на свята ў гэты марозны вечар. Вылучэнні за свае творы атрымалі Крыстына Кандрусік з Гарадка за верш «Успаміны старыкоў», Галена Ляховіч за верш «Таямнічая Бяроза», Мікалай Варанецкі з Альхоўкі Нараўчаскай гміны за нізку беларускіх вершаў, Анна Кунцэвіч з Гарадка за верш «**Już nie pusta przestrzeń**», Галіна Бжазоўская з Гарадка за верш «Вечар быў...», Крыстына Снарская з Дабжынева за ўспаміны, Люба Саковіч з Юшкавага Груда Міхалоўскай гміны за два вершы «Мінулае» і «Бяда нежанатаму», Крыстына Саўка з Дому апекі ў Ялоўцы за верш «Успамінкі», Дарота Шульц з Дому апекі ў Ялоўцы за верш «Nie jestem sama» і Радаслаў Пятроўскі з Дому апекі ў Ялоўцы за паэму. У катэгорыі твораў вучняў пачатковай школы вылучаны былі два вершы Эміліі Каранкевіч з Непублічнай школы ў Залуках, а ў катэгорыі гімназістаў — трэцякласніц Аляксандры Ярроцкай эсэ пра дарослых і дзяцей ды Элізы Матус за верш «Каханне».

Янка Карповіч, пераможца конкурсу, перш за ўсё музыка, які піша здаўна пабеларуску, які ў гэты раз даўся намовіцца да ўдзелу ў конкурсе ды зайграў з гітарай песні, між іншым, на словы Ларысы Геніюш. Прычытаў ён сваё апавяданне пра малыя радасці з маладосці.

— Я падумаў, што варта прыпомніць маладыя гады. Гэта было незвычайнае жыццё, зусім іншы свет. Можа хтосьці прачытае. Маю ўнука, то няхай ён ведае, якія дзед калісьці меў забавы, як праходзіла наша маладосць.

Галена Ляховіч, сяброўка «Расспяванага Гарадка», аўтарка вершаў і выдатная акцёрка (выступала ў пастаноўцы «Чарнобыльскай малітвы»), якая нядаўна на цэнтральным аглядзе фестывалю «Беларуская песня — 2017» сваёй архаічнай беларускай песняй здабыла другое месца, як заўсёды сціплая:

— Я пішу вершы здаўна, яны звычайныя і простыя. Мне ўжо нямала гадоў, я ўжо бабуля. Магчыма, вершы мае гучаць не зусім так, як трэба, але пішу іх ад душы. І людзям гэта падабаецца. Мабыць, таму і пішу, для сябе, і для людзей.

Крыстына Саўка, родам з Лукі, кансультавала сваю творчасць з Янкам Карповічам, які і параіў ёй, каб пісала на сваёй роднай мове, бо тады думкі самыя шчырыя:

— Я цяпер у доме апекі, хворая і нямоглая. А пра Луку напісала доўгія вершы, адвяла душу ўспамінамі. Там ужо майго дому няма. Гэта ўспаміны пра тое, як Лука жыла. Вельмі хваляваліся, як гэта ўсё спісвала. Проста ўсё стаяла ў вачах. Для памяці. Гэта мой доўг для тых, хто ў Луцэ жыў. Каб людзі ведалі, каб прачыталі пра былое. Гэта такая памятка. Вельмі міла, што нас разам з Ялоўкі запрасілі, што такія вельмі прыгожыя ўзнагароды, апрача дыпломаў. І так многа твораў па-беларуску! А ў маім вершы, які налічвае сорак строф: «Паслі на выгане коней, на беразе Нарвы, сваёй ракі, трымаючы хлеб у далоні, гадзіны спакойны плылі... Ехалі фуры з сенам у летнюю цёплую пару, з прыемным пахам з фуры, клалі яго ў старану. Жніва былі тут вялікі, запасны тут быў гаспадар. Палі жыта, аўса і пшаніцы. Радзіла нам родна зямля!.. Ад'язджалі з вёскі суседзі, прашчаліся з хатай сваёй. Цалавалі парог сваёй хаты, развіталіся з роднай зямлёй...».

Адзначаныя творы будуць надрукаваны ў „Гарадоцкіх навінах”.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# Мае падляшскія дзевяностыя (ч. III)



**«Big Cyc»**

Найбольш «яйцарская», то-бок прыкольная панк-рок-капэла Польшчы. Рокблазны ахінаючай рэчаіснасці.

**Радыё Рацыя**

Яшчэ ў канцы 90-х гадоў XX стагоддзя пачало вяшчаць першае беларускае радыё з Беласточчыны — Радыё Рацыя. Аднак сігнал быў слабаваты, але нейкім цудам лавілі яго радыёпрыёмнікі ў 2000 годзе ў маёй вёсцы Малінніκі. Слухалі яго нават мае сябры-палякі, што жылі ў студэнцкім інтэрнаце ў Беластоку. У 2002 годзе было закрыта, а з 2006 года вярнулася і вяшчае не толькі на Падляшша. Едучы на Мазуры, каля Граева ў машыне мы слухалі Радыё Рацыя. Нават у Алецку ёсць адзін верны фанат Рацыі, якую ловіць у сваім радыёпрыёмніку. Праз інтэрнэт Рацыю слухае цэлы свет. Нават людзі з Аўстраліі і Канады звоняць у перадачу «Падляшскі канцэрт пажаданняў».

**Вогнішчы**

У 90-я ніхто не рабіў грыляў, толькі распальвалі вогнішча і смажылі каўбаску на кіёчках. Часта бывала, што пры вогнішчы спявалі песні пад гітару ці гармонік. Пераважна вогнішча рабілі мы з сябрамі з белліцэя або на Сустрэчах «Зоркі». Зараз таксама, будучы ў адпачынку на Мазурах, рабіў я вогнішча. Значыць, яшчэ не да канца прайшла мода арганізаваць вогнішчы.

**«Прымакі»**

Пасля гурта «АС» — другі самы папулярны беларускі гурт з Беласточчыны. У 90-х гадах зрабілі кар'еру і завявалі папулярнасць, дзякуючы менавіта лэмкаўскай песні «Смэрэка». Астатнія песні з касеты «Зорка ясная» былі на беларускай мове. Касета прадавалася як агульнавядомыя свежыя булачкі. Таксама другі іх альбом «Цыганка» з 1998 года быў вельмі папулярны. Тады ўсе думалі, якія здольныя гэтыя «Прымакі», што пішуць такія прыгожыя песні. Ніхто нават не думаў, што ўсе песні «Прымакоў» гэта папулярныя рускія і ўкраінскія песні, якія на беларускую мову пераклаў Віктар Швед.

**Дзявочыя дзённікі**

Дзяўчаты ў 90-я гады нам, хлопцам, заўсёды давалі свае дзённікі, каб мы там упісалі свой верш ці размалявалі рысунак. Да гэтай пары думаю: ці мае сяброўкі з пачатковай школы яшчэ трымаць свае дзённікі, дзе я ўпісваў свае вершы і маляваў кветкі?

**Тэлебачанне**

Хаця ў 90-х мала ў каго было спадарожнікавае тэлебачанне і не было яшчэ DVB-T, дык на чатырох тэлеканалах TVP1, TVP2, TVP Białystok і Polsat было намнога больш цікавых тэлеперадач чымсьці зараз. У маёй вёсцы часам нават удавалася злавіць сігнал Беларускага тэлебачання ці рускага Першага канала або НТВ. У канцы 90-х нават пачаў даходзіць сігнал TVN.

**Радыёпрыёмнік «Верас»**

Легендарны радыёпрыёмнік беларускай вытворчасці, вельмі папулярны на Беласточчыне. У нас у хаце «Верас» з'явіўся вясною 1990 года. Мяне адно здзіўляла, якім цудам я на ім лавіў сігнал Radio Olsztyn. На Ольштынскім радыё з панядзелка да пятніцы ад 15:45 да 16:00 выходзіла перадача «Kwadrans z disco polo», якую вёў Norbi, а пасля 16:10 — перадача «Popołudniowy z Olsztyna». Гэты горад вельмі далёка ад Маліннік! На радыёпрыёмнік «Верас» я слухаў усе праграмы Польскага радыё, Першы нацыянальны з Мінска ці Маладзёжны канал з Масквы. Таксама даходзілі сігналы Радыё Свабода, Першага канала з Масквы і з Кіева. Чутна была таксама станцыя (не памятаю назвы), якая кожную нядзелю з 8 да 10 раніцы транслявала ўніяцкую багаслужбу на ўкраінскай мове. Тады яшчэ быў ніжні дыяпазон УКХ, а таксама доўгія, кароткія і сярэднія хвалі.

**Свята прарока Ільі**

Пасля Раждажства і Вялікадня — самае вялікае свята ў Падбелянскім прыходзе. На Ілью раніцай прыхаджане ехалі ў царкву ў Падбелле. Тады настаяцелем быў айцец Мікалай Блізнюк. На пачатку 90-х бацькі на Ілью куплялі дзеткам пісталеты на «коркі» і тыя стралялі. У другой палове 90-х са свята прывозілі цукеркі. Пасля багаслужбы ў царкве ў кожнай хаце была гасціна і гасцей цэлы стол. А цукеркі да гэтай пары прадаюць на царкоўных фэстах!

**Першы магнітафон**

З'явіўся ў палове 90-х, а разам з ім я пачаў цікавіцца музыкай. З гэтай пары я пачаў купляць і збіраць касеты. У магнітафоне быў радыёпрыёмнік вышэйшага дыяпазону FM і таму ўжо можна было слухаць першыя камерцыйныя радыёстанцыі RMF FM, Radio Zet або рэгіянальныя Radio Lublin, а нават нейкім цудам Radio Ostrołęka! На Радыё Ostrołęka ў кожную нядзелю ад 13:05 транслявалася радыёперадача «Ogrody nadziei». На магнітафоне ўжо можна было запісваць на плёнку радыёперадачы.

**«Перад выхадам у царкву»**

Гэтай радыёперадачай наш бацька будзіў мяне і сястру, каб мы ўставалі і гатовіліся ісці ў царкву. Па сённяшні дзень яна гучыць у эфіры Радыё Беласток у кожную нядзелю ў 7:45. Тады перадачу вёў айцец Рыгор Місіюк, дзякуючы якому на беластоцкім радыё з'явіліся перадачы пра тэму праваслаўя на Беласточчыне.

**Плакаты**

Плакаты заўсёды віселі над маім ложкам. Я заўсёды вешаў плакаты аўтамашын тыпу Alfa Romeo, BMW, MC Laren або Chevrolet Corvette з часопісаў тыпу «Moto Magazyn», «Auto Moto» ці «Motor». А дзяўчаты вешалі плакаты сваіх музычных куміраў, якія змяшчалі такія газеты як «Bravo» ці «Popcorn».

**Чарнавік**

Чарнавік гэта свабодны сшытак, у якім былі нататкі з урокаў, а таксама мае вершы, тэксты песень ці мае рысункі. Тады ў 90-х я вельмі любіў рысаваць і нават няблага мне гэта атрымоўвалася. Думаю, што і зараз кожны вучань мае такі сшытак.

**Конкурсы**

У 90-х амаль уся мая вёска прымала ўдзел у конкурсе радыёперадачы «Bajki zgadywajki», якія гучалі ў эфіры Радыё Беласток у кожную суботу ў 19:05. Першай, якая пачала іграць і выйграваць была мая суседка Аня Кулік. Пасля я пачаў выйграваць, а потым уся вёска на добрае іграла. А прысылалі ва ўзнагароду кніжкі, цацкі і перш за ўсё ласункі. Лістаноша, дзядзька Валодзя, меў шмат работы, каб разнесці ўсім узнагароды.

**Школьныя экскурсіі**

Школьныя экскурсіі былі нагодай выехаць далей за сваю родную вёску. Таму ў 1990 годзе я першы раз наведаў Святую Гару Грабарку, а год пазней Дабравешчанскі манастыр у Супраслі. Быў таксама ў Ануфрыеўскім манастыры ў Яблочнай і на Конскім заводзе ў Янаве-Падляшскім. Былі мы некалькі разоў у Белавежы. Некаторыя ездзілі на экскурсію ў канцлагер Майданак. Заўсёды з кожнай экскурсіі прывозілі мы нейкія памяткі або фотаздымкі.

❖ Юрка БУЙНЮК

# Дзе наша не прападала?

Чытаючы «Ніву» № 7 ад 12 лютага, у якой ёсць выказванне галоўнага рэдактара Яўгена Вапы пз. «Колькі аб'ектыўнасці ў „Аб'ектыве"», няцяжка здагадацца аб гэтым, што спадар Я. Вапа, пішучы, таксама нерваваўся, як пасля я чытаючы.

Прычынай нашага неспакойнага перажывання, ды не толькі нашага, але і чытачоў «Нівы», як і ўсяго беларускага грамадства з'яўляецца агідны фальш «сапраўдных палякаў». Гэтыя грамадзяне Польшчы ў сваёй ілжывай палітыцы смела і без ніякіх абмежаванняў могуць рабіць шыварат навыварат, бо іх палітычныя імкненні падтрымаў сам папа! Бо гэта ён пасвяціў помнік АК у Варшаве. Калі б папа быў справядлівы і богабаязны, як сваіх верных навучае, то на прапанову АКаўскага асяроддзя, каб у Варшаве пабудаваць, адкрыць і пасвяціць помнік жаўнерам АК, сказаў бы больш-менш так: «Мае дарагія браты і сёстры, калі хочаце будаваць помнікі сваім калегам загінуўшым у барацьбе з ворагамі, то пазбудзьцеся тых жаўнераў АК, якія палілі праваслаўныя вёскі з іх народам. Бо гэта былі бандыты, якія заслугоўваюць на асуджэнне, а не славу аб'яўленую ордэнамі, высокімі званнямі. Не лічыце героямі тых АКаўцаў, якія сваімі паводзінамі апляжалі польскі жаўнерскі мундзір».

Аб такой сітуацыі можна было б нам марыць, але і так нічога не даб'емся. Чаго можна чакаць? Я чуў, як каталіцкі ксёндз гаварыў у тэлебачанні, што «Ojciec święty Jan Paweł II przez otwór z nieba patrzy co się dzieje na ziemi». Я толькі не ведаю, ці Неба і Зямлю згадаў ён з малой, ці з вялікай літары, але ведаю, што святыя не ўміраюць і ўсюды свае парадкі і правы пастанаўляюць.

Спадар галоўны рэдактар, ці не варта прыпомніць тым, хто пераапрануўся з воўчай у авечую шкуру і іх прыхільнікам аб тым, што калі б не Чырвоная Армія тады, то да сёння і далей была б расійска-нямецкая мяжа, а нас было б столькі, колькі немцы патрабавалі б парабкаў для існавання Трэцяга Рэйха. І не было б каму брахаць на тыя 628 тысяч тых, што толькі за вызваленне Польшчы аддалі жыццё.

❖ Васіль ПЕТРУЧУК

# Арлянская вада

У Арлянскай гміне 95,6% насельніцтва карыстаецца вадою з водаправодаў. Вада падаецца быць якаснай, паколькі арлянскія водаправоды забяспечваюць некаторыя вёскі ў трох суседніх гмінах. Якасць вады пад пастаянным наглядам. Запланавана разбудова гмінных водазабораў.

Доступ насельніцтва да праточнай вады з кранаў з'яўляецца адным з пакаказальнікаў тэхнічнай інфраструктуры, вызначаючых стандарт жыцця на дадзенай тэрыторыі, а адначасна з'яўляецца перадумовай якаснага грамадска-гаспадарчага развіцця.

Даўжыня водаправоднай сеткі на тэрыторыі Арлянскай гміны не змянілася з 2010 года і налічвае 42,12 кіламетра. На тэрыторыі гміны пяць водазаборных установак. Згодна санэпідэміялагічным патрабаванням водазаборы для бытавых патрэб насельніцтва павінны падаваць у водаправодную сетку ваду адпаведнай якасці: у адным літры вады колькасць жалеза не павінна перавышаць паловы міліграма, а марганцу — дзесяціны міліграма. Бельская санэпідэмстанцыя кантралюе якасць вады ў паасобных водазаборах прынамсі раз у квартал.

На тэрыторыі Арлянскай гміны працуюць наступныя глыбінныя водазаборы:

- водазабор у Орлі, які забяспечвае Орлю і суседнія вёскі: Шчыты-Навадворы, Шчыты-Дзенцялова, Міклашы, Вульку, Кашалі, Рудуты, Крывятычы і вёску Мора ў Чыжоўскай гміне;
- водазабор у Алекшах (на ўчастку фірмы «Нафтан» арандаваным гмінай) падае ваду ў Алекшы, Дыдулі, Градалі, Кошкі, Тапчыкалы, Пашкоўшчыну, Шарні, Спічкі, Маліннікі, Москаўцы, Чахі-Забалотныя, Рыгораўцы, Паўлінова, Вульку-Выганоўскую, Круглае ды некаторыя вёскі ў Боцькаўскай і Бельскай гмінах. Водазабор пастаўляе найлепшую, мяккую ваду;
- водазабор у Крывятычах знаходзіцца на тэрыторыі сельскагаспадарчага кааператыва і сілкуе свінаферму;
- водазабор у Шчытах-Навадворах знаходзіцца на ўчастку свінафермы і сілкуе яе;
- водазабор фірмы IKEA ў Кошках.

Для камунальных мэт выкарыстоўваюцца водазаборы ў Орлі і ў Алекшах. Апошнія крыніцы падаюць ваду для прадпрыемстваў, якія працуюць на тэрыторыі гміны, і вада з іх не выкарыстоўваецца для бытавых патрэб насельніцтва.

У мінулым 2016 годзе была апрацавана праектна-каштарысная дакументацыя на разбудову, перабудову водазабора і водаправоднай сеткі ў Орлі (36 тыс. зл. брута) ды разбудову, перабудову водазабора ў Алекшах (28 тыс. зл. брута).

Мэтай перабудовы мае быць замена тэхналагічнага абсталявання дзеля ўтрымання высокай якасці пастаўлянай вады, замена электраправодкі ды рамонт будынкаў. Коштразбудовы перабудовы мае скласці 1 684 452,96 зл. у Алекшах ды 2 220 156,82 зл. у Орлі.

Міхал МІНЦЭВІЧ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Ганарымся вамі!

— Простая была, — сказала Вераніка Кардзюкевіч пасля напісання дыктоўкі прысвечанай Францыску Скарыне. Ужо ад чатырох гадоў вучні Непублічнай школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія менавіта ў такі спосаб адзначаюць Дзень роднай мовы. Да святкавання далучыліся таксама школьнікі з Нарвы і Гімназіі № 7 у Беластоку. Сёлета ўпершыню беларускія дзеячы і журналісты з Падляшша таксама прынялі ўдзел у мерапрыемстве і напісалі дыктоўку. Аднак гэта школьнікі найменш перажывалі дыктант. Гімназісты крышку жартавалі, што ўдалося ім напісаць у такім самым часе як і дарослай групе. Калі выйшлі з залы, былі спакойныя і нават калі зрабілі памылку, добра ведалі ў якім слове. Мне вельмі спадабалася такая ўпэўненасць! Паколькі дыктоўка з'яўляецца самай патрабавальнай праверкай, якой наогул пазбягаецца, тут не было такога адчування. Наадварот, настаўніца беларускай мовы і арганізатарка мерапрыемства Іаанна Марко адзначыла, што тыя вучні, якія прымаюць удзел у дыктоўцы, любяць такую форму праверкі і не хвалююцца! А адважных з году ў год усё больш. Але не толькі на дыктоўцы скончыліся святкаванні Дня роднай мовы. У гімнастычнай зале прайшла мастацкая частка. Прагучалі беларускія песні ў выкананні вучняў пачатковай школы, быў спектакль падрыхтаваны вучнямі са школы ў Нарве, з вядомым нам усім Крыстыянам Паскробкам у галоўнай ролі. Таксама на хвіліну, дзякуючы танцорам танга са школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія, гледачы маглі перанесціся з халоднага Беластока ў сонечную Аргенціну. Вяртаючыся да сутнасці Дня роднай мовы — дыктоўкі, «Зорка» знае яе вынікі! Калі ідзе пра гімназію подыум належыць сёстрам Кардзюкевіч: першае месца заняла Вераніка, другое — Зузя.



Злева: Оля Салавянюк, настаўніца Іаанна Марко, Вераніка Кардзюкевіч, Зузя Кордзюкевіч



Дарослыя ўдзельнікі дыктоўкі

фота Ганны КАНДРАЦЮК

Трэціх месцаў было ажно тры: Зузя Бар'ер, Клаўдзія Галінская з Гімназіі № 7 і Куба Ваўранюк са школы ў Нарве. Вылучэнні атрымалі Бася Лук'янюк, Оля Салавянюк, Агнешка ЗдаНоўская.

Сярод вучняў пачатковых школ першае месца заняла Оля Паўлючук. Другое заняў Мацек Сіроцкі, два трэція месцы заваявалі вучні з Нарвы — Наталька Петручук і Міхась Тапалянскі.

Вылучэнняў заслужылі таксама вельмі добра напісаныя дыктоўкі Іаанны Мусюк і Эмількі Калодкі.

Урачыстае ўзнагароджанне прайшло ў панядзелак — усе атрымалі дыпломы і гарачыя апладысменты. Настаўніца Іаанна Марко выказала спадзяванні, што праз год дыктоўку будзем пісаць у гімнастычнай зале. «Зорка», яшчэ больш упэўненая аб вашым добрым веданні мовы і граматыкі, чакае вашых дописаў на свае старонкі! Ганарымся Вамі!

**Уршуля ШУБЗДА**

III месца ў XIX Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы «Дэбют»

**Наталля Лукша,**
**Баб'я Гара, Гімназія ў Нараўцы**

## Кніжка

Кніжка гэта не толькі старонкі.
Кніжка гэта не толькі вокладка.
Кніжка гэта не толькі творчасць,
Нейкая аўра.

Кніжка гэта чыясьці праца
І бяссонне.
Гэта жыццё.
Кніжка гэта наш вобраз,
Гэта наш настаўнік.

Мы яе чытаем,
Мы яе любім
Так,
Як наш малы свет,
Як сябра ад душы.

## УВАГА КОНКУРС! № 10-17

## Загадкі з роднай хаткі

**Мыш не мыш, жыву я ў полі,**
**Ветрам дыхаю на волі,**
**За шчакой кішэню маю,**
**Яе зернем напаўняю.**
**Х....**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 19 сакавіка 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 7-17: пыласос. Узнагароды, наклейкі, выйгралі Матвей Зыскоўскі, Магда Люнда з КШ № 1 у Гайнаўцы, Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага, Оля Кардаш, Тамаш Ваўранюк з Нарвы. Віншуем!**

# Конкурс для найлепшых!

— Колькі жыву, не памятаю, каб у гісторыі быў такі цяжкі прадметны конкурс, — заяўляе адна настаўніца беларускай мовы.

Мова пра сёлетні конкурс для пачатковых школ. На цэнтральны этап дайшло толькі 19 асоб. І гэта менш як палова тых, што дайшлі да раённага этапу. У фінале, ужо чарговы раз, апынуліся Беласток і Бельск-Падляшскі. З Гайнаўкі перайшоў толькі адзін вучань з КШ № 3. Шасцікласнік Дам'ян Іванюк, можна сказаць — ветэран беларускага конкурсу. У яго кішэні ёсць ужо грамата лаўрэата па беларускай мове. Чаму прымаў удзел чарговы раз?

— Хацеў сябе праверыць, ці не апусціўся па беларускай мове, — чую інтэлігентны адказ.

Сам ён родам з Горнага і натуральна валодае мясцовай гаворкай. Дам'ян не бачыць у гэтым нічога асаблівага: беларуская мова для яго хатняя і родная. Сёння разам з ім перажываюць бацькі. Яны ганарацца, што Дам'ян любіць родную мову, старанна яе вывучае.

— Для цябе гэты конкурс цяжкі? — пытаем.


Дам'ян Іванюк з настаўніцай Людмілай Грыгарук

— Так, вельмі цяжкі, — пацвярджае, — а найбольш праблем было з граматыкай.

Ужо сам факт, што Дам'ян дайшоў да цэнтральнага этапу — вялікі поспех. Найбольшае прызнанне ён пабачыў у вачах сяброў па школьнай парце. Бо з той цэлай вялікай грамады, якая прымала ўдзел у школьным этапе, ён адзін дайшоў да цэнтральнага этапу.

Падобная сітуацыя атрымалася ў Нараўцы і Чыжах. З гэтых школ да цэнтральнага этапу перайшлі толькі па адным вучні.Усе іншыя нашы вясковагмінныя школы цалкам праваліліся....

Але не падвялі Беласток і Бельск-Падляшскі. Традыцыйна ўжо самая моцная каманда прыехала з беластоцкай «чацвёркі», адкуль на цэнтральны этап перайшло ажно пяць вучняў. Сярод іх быў пяцікласнік Міколка Здрайкоўкі, які на раённым этапе набраў максімальную колькасць балаў. Тыя, што памятаюць вынікі з мінулага года, ведаюць: «Мікола быў першым лаўрэатам у мінулым годзе». І гэта як вучань чацвёртага класа!

— Для мне гэты конкурс быў вельмі просты, — заявіў ёй.

— Многа вучыўся?

— Не, — прызнаўся пяцікласнік.

Міколка не толькі быў задаволены з удзелу ў конкурсе па роднай мове. Ён яшчэ прыгожа і граматна выказаўся пабеларуску. А ўсе мы ведаем, што апошні «вынік» з'яўляецца для нас самым значным, важным і дарагім. Што з таго, калі мы лаўрэат і не ўмеем скласці трох сказаў па-беларуску?!Апошнюю справу вельмі ўзялі да сэрца арганізатары конкурсу — настаўнікі беларускай мовы з Бельскага белліцэя, якія былі таксама гаспадарамі конкурсу.

— Хочам, каб конкурс стаў больш прэстыжным, — заявіў дырэктар ліцэя Андрэй Сцепанюк, — каб нашы вучні пераходзілі розныя ступені цяжкасці і адчувалі такі гонар, як лаўрэаты па матэматыцы ці хіміі.

Традыцыйна ўжо найбольш асоб на цэнтральны этап дайшло з бельскай «тройкі». Але гэта зразумела, калі ўзяць пад увагу лік вучняў і настаўнікаў, якія рыхтавалі дзяцей да конкурсу. Аднак больш падрабязна пра конкурс і вынікі напішам праз тыдзень.

**Зорка**

**Фота Ганны Кандрацюк**

## Вершы Віктара Шведа



### Дзе вучыцца сынок?

У камандзіроўцы матка,
Заняцца домам мусіў татка.
Завёз ён сыночка Лёню
У мясцовае прадшколле.

- Ён не наш, яму сказалі.
Адазваўся сынок з жалем:
- Вязі мяне ў школу, татка,
Бо спазнюся на занняткі.

### Банкамат

У нейкае свята
Да гарадскога банкамата
Падыходзіць жанчына
Са сваім малым сынам.

Потым мама ўпарта
Упіхае нейкую карту.
- Відаць, татка харошы
Перадае маме грошы.

*Замкі і палацы Беларусі*

## ВІЦЕБСКІ ЗАМАК З ВАСЯМНАЦЦАЦЦЮ ВЕЖАМІ!

Першы драўляны замак у Віцебску быў узведзены ў 974 годзе, пры ўтоку рэчкі Віцьбы ў раку Дзвіну. Крэпасць адыгрывала значную ролю на шляху з варагаў у грэкі.

Пасля, пры князі Альгердзе, замак быў абведзены муравanымі ўмацаваннямі, якія складаліся з Горнага і Ніжняга замкаў. Паколькі замак меў стратэгічнае значэнне — адсюль князі ВКЛ выпраўляліся на Маскву, крэпасць стрымлівала моц і непахіснасць. Горны замак меў пяць абарончых вежаў, а лінія яго абароны дасягала 800 метраў. Тым часам сцяна Ніжняга замка дасягала 1256 метраў і была ўмацавана трынаццаццю вежамі.

Адно з найважнейшых выпрабаванняў віцебскіх замкаў адбылося ў 1393 годзе пры аблозе вялікім князем Вітаўтам, калі ўпершыню ў ВКЛ былі ўжыты гарматы.



Сцены крэпасці не паддаліся нават у 1516, 1519 і 1568 гадах, калі яго беспаспяхова штурмавалі маскоўскія войскі. У пачатку наступнага стагоддзя ў замку нечакана ўспыхнуў вялікі пажар. Тады большая частка драўлянай Ніжняга і Горнага замкаў ушчэнт згарэла. Але крэпасць аднаўлялася ажно да часоў Паўночнай вайны. Пасля сумнавядомага перыяду яна раздзяліла лёс большасці замкаў Беларусі. Каротка кажучы, Віцебскі замак быў канчаткова спалены і закінуты.

Аднак памяць пра славутую крэпасць не прапала ў народзе. Гэта дзякуючы археалагічным раскопкам, якія былі праведзены ў 1970-х гадах. Сёння, хаця будоўля не існуе фізічна, пра яе ведаюць усе жыхары Віцебска і не толькі.

**Зорка**

## Польска-беларуская крыжаванка № 10-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 6 — 17:**

Луг, маг, горла, Сувалкі, герой, Аня, рой, картограф. Лек, сера, фурор, войт, гай, мол, арка, глінка.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Аляксандра Куптэль, Габрыела Красько** з Арэшкава, **Вікторыя Гаць, Мальвіна Маркевіч, Дам'ян Карнілюк** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Анна Парфянюк, Зофія Харчанка** з Новага Корніна, **Матэвуш Валентыновіч, Каміля Цілюлька** з Бабік, **Аляксандра Аніськевіч** з КШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!





Лаўрэаты ўзнагароды «Сябра БДК» дырэктар БДК. Справа: Дарафей Фіёнік, Малгажата Біль-Ярузельская, Раіса Раецкая і Сяргей Лукашук

# «Сябры БДК»

**Бяльшчане ахвотна прымаюць удзел у культурным мерапрыемстве «Бельскія мастацкія кліматы». Пачалі яго арганізаваць у Бельскім доме культуры ў канцы дзевяностых гадоў і пасля перапынку працягваюць у пашыранай форме надалей. Спачатку перад публікай выступілі музычныя калектывы. Цяпер побач спеваў і танцаў можна пачуць дэкламацыю і інфармацыю аб усебаковай дзейнасці дома культуры, быць сведкам уручэння ўзнагарод «Сябра БДК» і паглядзець мастацкія выставы.**



Новаствораны калектыў працаўнікоў БДК

Падчас «Бельскіх мастацкіх кліматаў», якія адбыліся 18 лютага, многа выступленняў прагучала на сцэне па-беларуску. Цікава запрэзентаваліся беларускія калектывы «Куранты», «Маланка» ды хор песні і танца «Васілёчкі», якія дзейнічаюць пры доме культуры. Прыгожа спявалі салісткі з Кобрына, горада-пабрацімa Бельска-Падляшскага. Пасля дэкламацыі па-беларуску пайшла гаворка пра абрадавую групу тэатральнага калектыву «Антракт», якая ўдала прэзентуе неапрацаваны беларускі фальклор. Узнагароды «Сябра Бельскага дома культуры» атрымалі таксама трое мясцовых беларусаў.

Супрацоўніцтва з Кобрынам прабівалі бельскі фалькларыст і гісторык Дарафей Фіёнік і ягоны Музей малой айчыны ў Студзіводах. Гісторыкі з Кобрына прымалі ўдзел у гістарычнай канферэнцыі ў Бельску, а калектывы з Кобрыншчыны па запрашэнні Студзіводскага музея першапачаткова выступалі ў Студзіводах і іншых мясцовасцях Бельшчыны. Пасля супрацоўніцтва было наладжана на ўзроўні ўлад гарадоў Бельск-Падляшскі і Кобрын. У суботні вечар падчас «Бельскіх мастацкіх кліматаў» прысутнічалі прадстаўнікі ўлад Кобрына — начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Кобрынскага раённага выканаўчага камітэта Надзея Жук і дырэктар Кобрынскага палаца культуры Валянціна Пакалюк, а таксама дзве салісткі Эстраднай студыі Кобрынскага палаца культуры і заадно яго працаўніцы Крысціна Харошка і Вольга Кірылюк, якія займальна спяваюць па-беларуску.

— Мы ў Бельску будзем выступаць чарговы раз. Раней выступалі тут нашы калектывы. Беларускія калектывы з Бельска выступалі ў нашым палацы культуры. Мы рады супрацоўніцтву з Бельскам, якое разгортваецца нашым палацам перш за ўсё ў музычным маштабе, — сказалі салісткі Крысціна Харошка і Вольга Кірылюк.

Бургамістр Бельска Яраслаў Бароўскі станоўча ацаніў дзейнасць Бельскага дома культуры, падзякаваў за прыезд гасцям з Кобрына і згадаў поспехі ажно дзевяці беларускіх выканаўцаў з Бельска-Падляшскага на Агульнапольскім фестывалі «Беларуская песня», якога гала-канцэрт адбыўся дзень раней. У мерапрыемстве «Бельскія мастацкія кліматы» прынялі ўдзел бельскія радныя, кіраўнікі ўстаноў і асобы, якія раней атрымалі званне «Сябры БДК». Штогадовая **ўзнагарода «Сябра Бельскага дома культуры»** ўручана была якраз **Дарафею Фіёніку** — старшыні Аб'яднання Музей малой айчыны ў Студзіводах, перш за ўсё за супрацоўніцтва яго музея з Бельскім домам культуры, між іншым, у галіне прапагандавання беларускай культуры і фальклору Падляшша і Палесся. Яму падыходзіла б таксама званне «Сябры Кобрына» хаця б за яго супрацоўніцтва з Кобрыншчынай, за прапагандаванне беларускіх традыцый Падляшша і Палесся. Нядаўна Дарафей Фіёнік і яго Студзіводскі музей выдалі зборнік вершаў Зоі Майстровіч з Рудутаў Арлянскай гміны і Марыі Кірылюк з Каменя-Шляхецкага Кобрынскага раёна, што з'яўляецца чарговым доказам супрацоўніцтва паміж Бельшчынай і Кобрынскім раёнам.

Некаторыя члены калектыву «Жэмэрва» са Студзіводскага музея займаліся і займаюцца ў тэатральным калектыве «Антракт» Бельскага дома культуры, які хутка будзе святкаваць 20-годдзе дзейнасці.

— У мяне самае цеснае супрацоўніцтва з Багуславам Шульцам, рэалізатарам голасу ў Бельскім доме культуры, які многа разоў займаўся гукаўзмацненнем і запісам песень падчас музычных мерапрыемстваў арганізаваных Студзіводскім музеем, — заявіў Дарафей Фіёнік.

Музей малой айчыны ў Студзіводах і Бельскі дом культуры злучае таксама калектыў «Маланка», які зараз дзейнічае пры Студзіводскім музеі і праз яго пасрэдніцтва, як няўрадавая арганізацыя, карыстаецца сродкамі Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі на падтрымку культуры нацыянальных меншасцей. Званне «Сябры Бельскага дома культуры» атрымаў таксама **Сяргей Лукашук**, шматгадовы музычны кіраўнік беларускага калектыву «Маланка», раней музычны кіраўнік беларускага хору «Васілёчкі» і беларускіх калектываў, якія дзейнічалі ў бельскай «тройцы» і белліцэі, а перш за ўсё дырэктар Бельскага дома культуры, зараз пенсіянер. Сяргей Лукашук гэта таксама ініцыятар і арганізатар «Бельскіх мастацкіх кліматаў», якога пераемцам з'яўляецца цяперашняя дырэктар БДК Малгажата Біль-Ярузельская.

Спачатку паасобныя бельскія калектывы ў рамках «Бельскіх мастацкіх кліматаў» штогод у асобных канцэртах выступалі ў Бельскім доме культуры і калі ўсе з іх запрэзентаваліся, быў перапынак у арганізацыі «Бельскіх мастацкіх кліматаў».

— Пасля быў прыблізна пяцігадовы перапынак і мы нанава сталі ладзіць «Бельскія мастацкія кліматы» як супольнае музычнае мерапрыемства для ўсіх нашых музычных калектываў, што займаліся тады ў доме культуры. Калі я перайшоў на пенсію, арганізаванне гэтых «кліматаў» пераняла ад мяне новая дырэктар БДК Малгажата Біль-Ярузельская. З гэтага часу я ўдзельнічаю ў «мастацкіх кліматах» у якасці музычнага кіраўніка «Маланкі», якая падчас гэтага мерапрыемства мае нагоду запрэзентаваць перад бельскай публікай новы рэпертуар, — паінфармаваў Сяргей Лукашук. — Я рады, што сённяшняя дырэктар мяне ўзнагародзіла. Цяпер рэгулярна наведваю Бельскі дом культуры, бо тут жа праводзяцца рэпетыцыі «Маланкі», сустракаю тут асобы, з якімі я працаваў многа гадоў.

У размове Сяргей Лукашук згадаў пра ўдалы выступ «Маланкі» — лаўрэата першага месца фестывалю «Беларуская песня» — на гала-канцэрце ў Беластоку. З тымі самымі песнямі «Маланка» выступіла падчас «Бельскіх мастацкіх кліматаў».

Трэцяе званне «Сябры БДК» атрымала войт Бельскай гміны **Раіса Раецкая**. Распавяла яна пра супрацоўніцтва Бельскай гміны з БДК, пра рэпетыцыі, якія калектыў «Луна» з Парцава праводзіць у Бельскім доме культуры і пра ўдзел жыхароў яе гміны ў мерапрыемствах, арганізаваных Бельскім домам культуры. Дырэктар БДК Малгажата Біль-Ярузельская заявіла, што ад Дарафея Фіёніка і Студзіводскага музея Бельскі дом культуры вучыцца захоўваць мясцовую культурную спадчыну. Сам Дарафей Фіёнік сказаў, што ўжо дваццаць гадоў у Бельскім доме культуры і ў яго карысць працуе яго жонка Альжбета. Яна паспяхова вядзе тэатральныя калектывы «Антракт» і пазней заснаваны «Рэтра» для дарослых выступоўцаў і «Антракт+», у якім выступаюць акцёры абодвух калектываў. Згаданыя калектывы прэзентуюць, між іншым, беларускія абрады.

Усім асобам, якія атрымалі званне «Сябры Бельскага дома культуры» дырэктар Малгажата Біль-Ярузельская ўручыла графіку з анёламі. Кожны год выявы анёлаў уручаюцца ў рознай мастацкай форме. У гэтым годзе інструктар мастацтва ў БДК Шыман Амбражэвіч выканаў прыгожую графіку з выявамі анёлаў. Уладзімір Весялоўскі з «Васілёчкаў» выступіў двойчы — спяваючы з «Васілёчкамі» і дэкламуючы па-беларуску, як прадстаўнік тэатральных калектываў «Рэтра» і «Антракт+». Музычны кіраўнік «Васілёчкаў» Мікола Фадзін цешыўся, што яго хор заняў другое месца на фестывалі «Беларуская песня» і крыху шкадаваўся, што не прыйшлося хору выступіць на гала-канцэрце фестывалю. Свой беларускі рэпертуар «Васілёчкі» запрэзентавалі падчас «Бельскіх мастацкіх кліматаў». Публіку захапіў таксама беларускі калектыў «Куранты», якога музычны кіраўнік Аліна Негярэвіч была рада, што яе калектыў заняў другое месца на фестывалі «Беларуская песня» і дзень раней выступіў у час гала-канцэрта.

Аднак бельскае мерапрыемства пачалося з неспадзеўкі — выступу новаствораннага ў БДК калектыву з польскай і беларускай песнямі, да якога належаць амаль усе працаўнікі дома культуры, на чале з дырэктар Малгажатай Біль-Ярузельскай. Публіцы асабліва спадабалася песня «Ехаў Ясь на кані», якую спевакі выканалі з падзелам на жаночыя і мужчынскія галасы. Падчас выканання гэтай песні вылучылася Юстына Пажазінская, якая пасля займальна запрэзентавалася на сцэне са Студыяй песні «Фарт», якой сама апякуецца. Удала запрэзентаваліся таксама дзіцячы калектыў «Карусель» і ўкраінскі калектыў песні і танца «Ранок». Была дэкламацыя таксама на польскай мове, а мастацкі кіраўнік БДК Марыя Бабулевіч цікава распавяла аб працы мастацкіх майстэрняў, тэатральных калектываў, фатаграфічнай майстэрні і іншых кружкоў зацікаўленняў, якія дзейнічаюць у Бельскім доме культуры. Сабраныя маглі паглядзець выставу сатырычных рысункаў бяльшчаніна Тамаша Кажанецкага. «Бельскія мастацкія кліматы» завяршыліся інтэграцыйнай сустрэчай усіх выступоўцаў.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



Размова з протаіерэем **Уладзіславам МАСАЙЛАМ**, вікарыем Свята-Юр'еўскага прыхода ў Беластоку, былым настаяцелем Ячніцкага прыхода.

# Так будавалі царкву ў Ячне

***— У Ячне ў 1986 годзе згарэла старая царква, а Вы прыйшлі два гады пасля таго. Вы трапілі ў Ячна з Юраўлян і які вобраз пабачылі Вы ў Ячне? Кінулі ж Вас, так можна сказаць, на шырокую і глыбокую ваду. Малады бацюшка, без будаўнічага вопыту...***

— У Юраўлянах я канчаў пабудову плябаніі, якая там была ў сырым стане, справа была хутка, цягам паўгода, завершана, таму можа і ўладыка Сава выслаў мяне ў Ячна. Юраўляны былі малым прыходам, а Ячна мо ў два разы большым.

***— Прыходзіце ў Ячна, а там што? Работы ўжо пачаліся?..***

— Царква стаяла ў сырым стане, без званіцы, дах пакрыты толю і завяршалася крыццё першага, галоўнага, купала, бо званіцы, як я ўжо згадаў, тады яшчэ не было. А ўнутры царквы пясок, мяшкі з-пад цэменту і, агульна кажучы, бязладдзе. Маліліся ў капліцы на могілках. І трэба было штосьць далей рабіць.

***— Значыць, да Вашага прыбыцця сцены ўжо стаялі...***

— Сцены стаялі, вокны былі ўстаўлены. Яшчэ пры вокнах стаялі рэшткі рыштаванняў, з якіх шкляры ўстаўлялі шыбы. Былі часовыя дзверы, абабітыя, калі добра помню, толем. Сцены без тынку. А згаданы купал быў пакрыты бляхаю недзе ў палове; крыж на купале ўжо быў. А наша сям'я прыехала з двойкай дзяцей, найстарэйшай дачцэ было няпоўныя два гады, а другой дачцэ было чатыры месяцы ад роду. А першую службу служыў я на Пакровы. Хаця ў той час у Новым Дварах было прыходскае свята; гэта было бадай два дні пасля нашага прыезду ў Ячна. Служыў у згаданай капліцы на могілках, з'явілася шмат людзей, якія, як гаварылі, прыйшлі пабачыць свайго бацюшку.

***— Царква была ў сырым стане, але ж трэба было прадаўжаць работу...***

— Так царква прастаяла да вясны, а вясною сталі рыхтавацца да таго, каб накрыць яе бляхай. Тую бляху здабывалі рознымі спосабамі. Селянін пісаў адпаведнаму начальству, што паставіў куратнік ці свіран і трэба яго накрыць бляхай. І так тую бляху здабывалі, прывозілі нават з Беластока. І трэба ж было таксама нешта адвесці і таму, што меў уладу ў шарыкавай ручцы... Крыў царкву страхар з Ліпска, каталік, прозвішча зараз не помню. Накрылі дах, а пасля жвір сталі вазіць вазамі са жвіроўні ў Ячне, каб пасля гэта заліць бетонам пад плітkавую падлогу. Людзі з рыдлёўкамі, было іх многа, накідалі жвір на фурманку, фурманку трактар завозіў на цвінтар, пад уваходныя дзверы. А з супрацьлеглага, алтарнага боку, была зроблена ў муры адтуліна, праз якую быў працягнуты канат. І трактар, адчапіўшы воз, пераязджаў на супрацьлеглы канец царкоўнага будынка, там да яго падчаплялі канат, якога другі канец падчаплялі да толькі што прывезенага воза з гравіем. Такім чынам уцягвалі загружаны воз усярэдзіну. Усярэдзіне і навонкі стаялі людзі, якія паведамлялі трактарысту, як далёка цягнуць канат з возам, бо трактарыст не бачыў цягнутага воза; спярша жвір падвозілі ў алтарную частку, а пазней штораз бліжэй уваходных дзвярэй. І калі воз спыняўся, тады паднімалі з яго барты, якія ў нас называюць гнаіцамі, скідалі жвір, трактар зноў пад'язджаў пад уваходныя дзверы, выцягаў воз і ехаў па чарговы груз. І работа прасоўвалася шпарка, бо калі б жвір трэба было вазіць тачкамі, то такая работа цягнулася б вельмі марудна. І гэта зрабілі даволі хутка, здаецца, калі добра сёння помню, цягам пяці ці шасці гадзін. А і людзей сабралася тады трыццаць ці сорак чалавек; гаварылі яны, што цягам дзесяці мінут загружалі воз жвірам. Усярэдзіне жвір адразу нівеліравалі і ўсё пайшло вельмі хутка. Пасля вылілі падлогу, а далей клалі тынк; тынкаваў майстар з Дубровы. І калі патынкавалі, тады мы сталі ўжо там служыць. Заміж іканастасу павесілі такія жоўтыя заслоны вышынёй каля чатырох метраў; зрабілі так, што былі там і „дыяканскія дзверы" і „царскія дзверы". І так



там служылі; як доўга — не помню, мо два гады, а мо і менш нават. У міжчасе сталі рабіць іканастас

***— А хто рабіў іканастас?***

— Майстар быў з Дубровы, Эдвард Казёл, які часта мне згадваў, што ён у даваенны час скончыў школу мастацкага сталярства ў Навагрудку.

***— А цяпер спытаю пра фрэскі...***

— Спачатку была толькі адна фрэска, „Уваскрэсенне Хрыстова", на сцяне за прастолам. І тую фрэску выконваў чалавек, які прыехаў у Польшчу з Сярэдняй Азіі — Мікалай Мельнікаў. Ён таксама напісаў іконы на іканастас.

***— А далейшыя фрэскі?***

— Прайшоў нейкі час. У Ружанастоку жыў Тадэвуш Мажэйка, каталіцкі катэхет, які лічыўся салезіянскім супрацоўнікам. Ён быў здольным мастаком. І так атрымалася, што мы згаварыліся пра фрэскі. Я спытаў яго, ці ён выканаў бы фрэскі ў царкве, а ён адказаў, што напэўна з такім выклікам справіўся б, хаця яшчэ такою справай не займаўся, сказаў: „Гэта была б мне набілітацыя, што я магу выканаць такую работу ў царкве". Я адзначыў, што гэта павінна быць згодна царкоўным правілам і зацверджана ўладыкам. Ён выканаў эскіз прапанаваных фрэсак, я завёз праект уладыку. Уладыка, а тады Беластоцкай епархіяй загадваў уладыка Якаў, спытаў, хто будзе пісаць гэтыя фрэскі. Я адказаў, што каталіцкі мастак. Уладыка спытаў, ці ён гэта зробіць па правілах. Я паказаў эскіз, інфармуючы, што мастак перанясе яго верна на сцены царквы. І ўладыка згадзіўся. І так паўсталі дзве фрэскі: з левага боку іканастаса „Прарок Ілья", а з правага „Жанчыны міраносіцы". Крыху было гумарыстычна, калі ён пісаў фрэску з прарокам Ільёй і трэба было на ім намаляваць груганa. Ён прынёс з сабою „Атлас птушак" і адтуль маляваў дэталь фрэскі. І тыя фрэскі ён напісаў даволі хутка, бадай цягам года. І пад канец маёй пабыўкі ў Ячне пісаў яшчэ фрэскі „Хрыстос блаславаўляючы дзяцей" і „Раждаство Хрыстова", якія завяршыў пасля майго адыходу.

***— Значыць, Вы пакінулі царкву не да канца распісаную...***

— Яна яшчэ і зараз не распісана поўнасцю.

***— А званіцу стаўлялі пры Вас?***

— Так. Пачалі будаваць званіцу бадай у 1994 годзе.

***— Вярнуся яшчэ да пачатку: хто быў архітэктарам ячніцкай царквы?***

— Міхал Балаш з Беластока.

***— Хто асвячаў новаўзведзеную царкву?***

— Уладыкі Сава і Авель у саслужэнні шматлікага духавенства; прысутнічала многа вернікаў. Адбылося гэта 2 жніўня 1993 года, на прыходскае свята Ілы.

***— Вы трапілі ў прыход у нявыгадны час, бо прыход падзяліўся: з Ячніцкага прыхода быў выдзелены Дуброўскі прыход.***

— Гэта адбылося яшчэ да майго прыбыцця ў Ячна.

***— Але людзі ахвярна падтрымлівалі будову царквы? Спытаю так: ці былі ахвяравальнікі нейкіх, напрыклад, ікон?***

— Панікадзіла ахвяраваў выхадзец, бадай у Канаду, з Ячніцкага прыхода, ягонага прозвішча не помню. Ён ахвяраваў не грошы, толькі гатовае панікадзіла, у 1988 годзе, калі я толькі прыйшоў у Ячна. І ён запатрабаваў, каб тое панікадзіла адразу ў царкве павесіць, а яму прыслаць здымак. А ў той час у царкве, па сутнасці, нічога не было. І тое панікадзіла павесілі каб зрабіць здымак, а пасля, на час тынкавання, яго знялі. Бо тут жылі ягоныя пляменнікі, якія пільнавалі выканання ягонай волі... А пасля, калі інтэр'ер царквы быў адпаведны, яго зноў павесілі на прызначанае месца. Іконы куплялі з агульных прыходскіх сродкаў, толькі ікону Ячніцкай Багародзіцы фундавала сям'я Беламызых. Яшчэ адзін чалавек з Амерыкі прывёз ікону Тайнай вячэры, але тая ікона была напісана ў іншай манеры чым агульны антураж царквы, і яе павесілі не над царскімі дзвярамі, але з боку алтара.

***— Але хіба складана было здабываць сродкі на будову, бо ж прыход падзяліўся, засталося нямнога людзей...***

— Я яшчэ сёння дзівуюся, як усё гэта ўдавалася. Рабілі як маглі, але зрабілі многа. Людзі крыху наракалі, але ахвяроўвалі і работы прасоўваліся, не спыняліся.

***— Найбольш вернікаў было дзе?***

— Шчыра сказаць: тыя, каму найбліжэй, найменш хадзілі. А найбольш наведвалі набажэнствы вернікі з Гарасімаўцаў, Грабянёў. І раз у месяц я ездзіў у Сідэрку. Туды людзі, слава Богу, прыходзілі, з Сідэркі, з Шастак. Пасля і з Сідры з'явілася больш вернікаў. У Сідэрцы было шмат прыслужнікаў, нават чатырох. Я ездзіў на рэлігію ў Сідэрку і звяртаўся да вучняў, каб прыходзілі прыслугоўваць і хлопцы прыходзілі.

***— Царкоўку ў Сідэрцы паставілі ў 1970 годзе. Ці там у Ваш час таксама праводзіліся нейкія работы?***

— У той самы год, калі была асвечана царква ў Ячне, была аднаўлена і царкоўка ў Сідэрцы. Памянялі падлогу, памалявалі сцены, вылілі падлогу. Падлогу рабілі двойчы. Спярша зрабілі драўляную і яна нам згніла, бо майстры, што яе рабілі, заміж выносіць плавінне навонкі, кідалі яго пад падлогу, дзе ў ім збіралася сырасць. І аднойчы, на Яна, пад адным бацюшкам падгнітая падлога не вытрымала... Пасля тую падлогу трэба было вельмі грунтоўна аднавіць і забяспечыць. Пасля вылілі бетонную падлогу. Дадам, што спачатку, калі я прыйшоў, то ў Сідэрцы не было павышэння ў алтарнай частцы і здавалася, што святар стаіць знізу прыхаджан.

***— У Ячне каля ўвахода ў царкву вісіць табліца, якая інфармуе пра высокае рашэнне імператара Мікалая І паставіць там царкву; гэта ў Ваш час яе павесілі?***

— Гэта эрэкцыйны акт тае царквы, што згарэла, але пры мне яго яшчэ там не было. З Ячна я выехаў у 2004 годзе.

***— Дзякую Вам не толькі за ўклад у рэлігійнае жыццё, але і за ўклад у ландшафт вакол Ячна, бо тамашняя царква вельмі яго ўзбагачае. І за гэтую размову шчыра дзякую.***

Пытаў і фатаграфаваў
Аляксандр ВЯРБІЦКІ

# Першы вернісаж



Як выявілася, ніхто з вучняў першага і другога класаў гімназіі ў Крынках не быў яшчэ ў галерэі, хіба што гандлёвай.

— Забудзьце на хвіліну пра галерэйныя крамы і перанясемся ў свет сапраўднага мастацтва, — звяртаюся я да ўдзельнікаў вернісажу, у гэты раз узяўшы на сябе ролю куратара выстаўкі графікі вучняў Мастацкага ліцэя імя Артура Гротгера ў Супраслі. Падрыхтоўку пачала я ўжо некалькі месяцаў раней. На шчасце атрымалася закупіць камплект спецыяльных рамак, якія забяспечваюць мастацкія працы перад пылам. Несла я іх па Беластоку на плячах праз паўгорада. Усё паводле дагавору з мастачкай з Крынак Мартай Мушынскай-Юзафовіч — настаўніцай супрасльскага ліцэя і мамай дзвюх маіх вучаніц.

Заўсёды цешыць, калі бацькі актыўна ўключаюцца ў працэс адукацыі дзяцей, падтрымліваюць педагогаў. Такім чынам вернісаж у крынскай школьнай бібліятэцы адбыўся без лішніх коштаў. А яшчэ з дапамогай прыйшла іншая маці — Іаанна Янкевіч. Як заўсёды з'явілася яна не з пустымі рукамі, а з хатнімі пірагамі. Вядома, сапраўдны вернісаж заўсёды адбываецца з пачастункам. Але Іаанне перш за ўсё цікава было паўдзельнічаць у культурным мерапрыемстве. Трэба адзначыць, што такая ахвота — рэдкая прыкмета ў нашым народзе. Прыйшоў і сталы наведвальнік бібліятэчных мерапрыемстваў наш школьны праваслаўна-каталіцкі бацька ксёндз Пётр Васілеўскі. Мала таго, наш сантэхнік і заадно майстар на ўсе рукі Яраслаў Скроўба, нягледзячы на хваробу і бальнічны лісток, спецыяльна сарваўся з ложка, каб дапамагчы развесіць выстаўку.

— Кожная з гэтых графік — індывідуальны погляд на акружаючы нас свет, — тлумачыць сабраным Марта.

Крыстыян затрымліваецца на «Сустрэчы дзвюх рыб». Адна з іх — ахвяра другой.

— Гэта нярэдкі выпадак, — тлумачу юнаку. — Людзі сустракаюцца, шукаюць адзін аднаго, каб потым з'есці сябе.

Марта хваліоецца, што крынская моладзь амаль адсутнічае ў радах супрасльскіх ліцэістаў. Сустрэча з нашымі гімназістамі пацвердзіла гэты тэзіс. Толькі адна вучаніца прызналася публічна, што часам любіць сабе памаляваць. Мала таго, пра існаванне той жа школы яны зусім не ведалі. Вернісаж стварыў нагоду для яе папулярызацыі. Вучні даведаліся пра цікавыя праекты, рэалізаваныя вучнямі ліцэя, пра іх сустрэчы з беларускімі мастакамі. З захапленнем аглядалі ўзнагароджаныя фільмавыя сюжэты, між іншым, былой вучаніцы ліцэя, крынчанкі Караліны Віхэр.

— Варта ўпрыгожыць свет, — раю сабраным. — Ніхто гэтага за нас не зробіць. Трэба пачаць тут і цяпер. Гэта сапраўды добрая забава. Ведаюць гэта толькі тыя, якія спрабавалі, адважыліся ўвайсці ў іншы, неабмежаваны нічым свет. Дастаткова толькі паверыць у сябе.

Сярод слухачоў быў хлопец з небывалай калекцыяй кепскіх ацэнак па розных прадметах. Нягледзячы таксама на складаныя асабістыя паводзіны, часам заглядае ён у бібліятэку, каб пагаварыць са мной. Пасля вернісажу прыйшоў ён крыху засмучаны. Штодзень жыве тэкстамі рэпераў, якія, бывае, сядзяць у вязніцах. І тут ён захапіўся пабачаным. Яму замроіліся супрасльскі ліцэй і магчымасці, якія адкрываюцца перад выпускнікамі гэтай школы. На жаль, позна. Столькі гадоў свайго жыцця ён змарнаваў. Цяпер цяжка будзе дагнаць.

Астатнія таксама не могуць дачакацца чарговых вернісажаў. Спадзяюся, што наша супрацоўніцтва з супрасльскім мастацкім ліцэем на гэта дазволіць.

Выстаўка графікі даступна штодзень у школьнай бібліятэцы з 8.00 да 14.00.

Усіх сардэчна запрашаю.

Тэкст і фота **Іаанны ЧАБАН**

Купала поштай

# http://kupalaposhtai.by

Ці многа беларусаў ведае хаця б некалькі вершаў Янкі Купалы на памяць? Для адказу на гэта пытанне наўрад ці праводзіліся якія-небудзь апытанні, але здаецца, што такіх беларусаў не надта многа. А вось прычын такой сітуацыі хапае. Гэта і другаснае ў параўнанні з іншымі школьнымі прадметамі палажэнне беларускай літаратуры для навучэнцаў, гэта і адсутнасць сур'ёзнай прапаганды літаратурнай спадчыны Купалы, гэта і абыякавае стаўленне дзяржаўных органаў да развіцця нацыянальнай самасвядомасці насельніцтва. Аднак, нягледзячы на ўсе адмоўныя бакі, сёння на хвалі так званай „мяккай беларусізацыі" звычайныя людзі самі пачынаюць прапагандаваць творчасць славутага паэта. І дзякуючы гэтаму, у лютым у інтэрнэце з'явіўся сайт „Купала поштай", на якім можна падпісацца, а потым перыядычна атрымліваць па электроннай пошце вершы Янкі Купалы.

Месяцца сайт па адрасе **http://kupalaposhtai.by** і выглядае даволі проста і сціпла. На галоўнай старонцы партрэт паэта і расповед пра новую інтэрнэт-бачыну. „Карысная рассылка для тых, хто хоча больш ведаць пра беларускую літаратуру, але каму заўсёды не хапае часу. Падпішыцеся і атрымлівайце кожны дзень па адным вершу Янкі Купалы. Няхай ваш дзень пачнецца з натхнення, а не з афіснай руціны! Мы падрыхтавалі 100 вершаў паэта. Ужо праз 100 дзён вы зможаце пахваліцца, што добра ведаеце творчасць Купалы", — распавядаецца на галоўнай старонцы.

Паколькі галоўнае прызначэнне сайта рассылка вершаў, то вялікай колькасці старонак на ім няма. Найбольш інфарматыўныя рубрыка — „Пытанні", дзе стваральнікі сайта размясцілі магчымыя пытанні ад карыстальнікаў і даюць на іх свае адказы. „Укажыце адрас электроннай пошты, на якую вы хочаце атрымліваць вершы. Пасля вы атрымаеце ліст з просьбаю пацвердзіць падпіску. Адкрываеце ліст, націскаеце на «Пацвердзіць» і, вуаля, ужо з наступнага ранку атрымліваеце верш Купалы!", — распавядаецца там аб працэдуры атрымання вершаў.

Таксама стваральнікі сайта не адмаўляюцца ад грашовай дапамогі і супрацы. „Атрыманыя грошы мы патрацім не толькі на развіццё рассылкі «Купала поштай», але і на новыя задумы. Напрыклад, у нас ужо спее праект «Мастакі поштай». Калі ў вас ёсць свае ідэі ці жаданне памагаць нам з вёрсткай, дызайнам, працай з крыніцамі, пішыце на kupala@kupalaposhtai.by. З радасцю далучым вас да нашай невялічкай каманды;)" — кажуць стваральнікі сайта, якія чамусьці не пажадалі ўказаць на ім сваіх імёнаў. Праўда, паколькі з'яўленне данага сайта стала больш-менш адметнай падзеяй у літаратурна-інтэрнэтным жыцці, то пра яго напісалі шмат газет і інтэрнэт-рэсурсаў у Беларусі, якія і назвалі імёны аўтараў „Купалы поштай". Так, кіраўніком праекта з'яўляецца Уладзімір Андрыенка, які стварыў сайт разам са студэнткай Белдзяржуніверсітэта Ксеніяй Тарасевіч.

Паводле Андрыенкі, ідэя такога праекта з'явілася ў яго, калі ён убачыў расійскі сэрвіс nezarastet.ru, дзе кожны дзень людзям дасылаюць вершы Пушкіна. „Мы з сяброўкай Ксюшай Тарасевіч размаўлялі наконт таго, як добра было б запусціць сайт, які не толькі дапаможа прапагандаваць беларускую мову, але і падштурхне да таго, каб людзі пачалі цікавіцца мастацкім багаццем Беларусі", — цытуе кіраўніка праекта газета „Аргументы і факты ў Беларусі".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара

Беларускі выдавец, перакладчык, адраджэнец



## 90 гадоў з дня нараджэння
# Міхася Дубянецкага

Беларускі кнігавыдавец, пісьменнік, перакладчык, грамадскі дзеяч Міхась Дубянецкі нарадзіўся 4 сакавіка 1927 г. у вёсцы Востраў Пінскага раёна. У яго сям'і шмат вядомых людзей: брат — філосаф, палітолаг і публіцыст Станіслаў Дубянецкі, дочкі — паэтка Галіна Дубянецкая і філосаф, тэолаг Ірына Дубянецкая.

Вучыўся Міхась Дубянецкі ў Востраўскай сямігадовай польскай школе, а ў 1938-1939 гг. у адной з гімназій Познані (Польшча). У верасні 1944 г. скончыў кароткатэрміновыя настаўніцкія курсы ў Пінску і быў настаўнікам пачатковых класаў Лемяшэвіцкай няпоўнай сярэдняй школы Пінскага раёна. У 1945-1951 гг. служыў у арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў у Пінскім райкаме КПБ. Скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ. У 1956-1961 гг. — загадчык аддзела прапаганды і агітацыі Ганцавіцкага райкама, намеснік рэдактара ганцавіцкай раённай газеты „Сялянская праўда". Адначасна з працай у газеце завочна скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС па спецыяльнасці журналістыка. З 1961 г. працаваў рэдактарам у выдавецтве „Беларусь", загадчыкам рэдакцыі эканамічнай літаратуры, галоўным рэдактарам выдавецтва „Ураджай". У 1968-1975 гг. — інструктар сектара друку ЦК КПБ. З 1975 г. — адказны сакратар-намеснік галоўнага рэдактара Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. У 1979-1986 гг. дырэктар выдавецтва „Мастацкая літаратура".

З 1964 г. выступаў як перакладчык з рускай, польскай і ўкраінскай моў на беларускую. У яго перакладзе выйшлі кнігі Даніїла Граніна, Валянціна Распуціна, Стэфана Жаромскага, Грыгорыя Цюцюнніка, зборнік украінскіх апавяданняў, „Блакадная кніга" Адамовіча і Граніна. Ініцыятар стварэння шматтомных выданняў нацыянальнай літаратуры і фальклору, выпуску твораў беларускіх класікаў, замежнай перакладной літаратуры, маладых паэтаў і пісьменнікаў. Абараняў ад чыноўніцкага свавольства і цэнзуры лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў: Вячаслава Адамчыка, Уладзіміра Караткевіча, Аляксея Карпюка, Пімена Панчанкі, Івана Чыгрынава, Алеся Разанава, Леаніда Дранько-Майсюка і іншых. У 1982 г. яму ўдалося дабіцца завяршэння выдання 4-томнага збору твораў Васіля Быкава і ўключэння ў яго раней забароненай ЦК КПСС аповесці „Мёртвым не баліць". Аўтар дакументальна-публіцыстычнага эсэ «Злое вогнішча: Да гісторыі выдання аповесці В. Быкава „Мёртвым не баліць"» і мемуараў, апублікаваных пасмяротна ў часопісах „Полымя" і „Дзеяслоў".

Дубянецкі — адзін з пачынальнікаў нацыянальна-дэмакратычнага руху ў Беларусі ў 1980-х — пачатку 1990-х. Старшыня гісторыка-мемарыяльнай камісіі Беларускага фонду культуры. У ліпені 1988 г. разам з Зянонам Пазьняком і іншымі заснаваў „Камітэт-58" (назва паходзіць ад 58-га артыкула Крымінальнага кодэксу) з мэтай арганізацыі грамадскага руху па выяўленні сталінскіх злачынстваў супраць беларускага народа. Быў сябрам Грамадскай рады Гісторыка-асветнага таварыства памяці ахвяр сталінізму „Мартыралог Беларусі" і Аргкамітэта па стварэнні Беларускага народнага фронту за перабудову „Адраджэнне", утвораных на Усебеларускім устаноўчым сходзе прадстаўнікоў грамадскасці 19 кастрычніка 1988 г. На Устаноўчым з'ездзе, які адбыўся ў Вільні 24-25 чэрвеня 1989 г., абраны сябрам Сойму БНФ.

Памёр Міхась Дубянецкі заўчасна 3 верасня 1990 году ў Менску, пахавалі яго пад бел-чырвона-белым сцягам на сталічных Паўночных могілках.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Вакзал у Плянце

У 1906 годзе закончылі пабудову чыгункі з Седльцаў у Гайнаўку ды далей у Ваўкавыск, якая пралягла цераз Плянту. Чыгуначная станцыя атрымала назву Нараўка. Адзін са старэйшых жыхароў вёскі Плянта Уладзімір Клімюк (яму больш за дзевяноста гадоў) расказаў мне пра колішні вакзальны двухпавярховы цагляны будынак. У ім была чакальня для пасажыраў, адкрытая днём і ноччу, білетная каса, пакой начальніка станцыі і дзяжурнага руху, склад на пасылкі і багаж. Быў яшчэ буфет і пакой для мацярэй з дзяцьмі. На паверсе былі кватэры для сем'яў начальніка і дзяжурнага. Стрэлачнікі наймалі прыватныя кватэры. Побач пераезду цераз чыгунку стаяў дом пуцявога абходчыка.

Да 1939 года на вялікай плошчы побач станцыі быў склад дошак, бэлек і іншых будаўнічых матэрыялаў. Тут у вагоны грузілі бутэлькі з гуты шкла ў Нараўцы. Перад Калядамі прыязджалі купцы з Варшавы і скуплялі малыя і вялікія елкі. Каля станцыі быў таксама вялікі пляц для фурманак.

Побач прыгожага вакзальнага будынка стаяла воданапорная вежа (ёсць старыя архіўныя здымкі), у якую ваду пампавалі трубамі з рэчкі Нараўкі. У ёй былі дзве водаўмяшчальні на некалькі тысяч літраў кожная. З іх машыністы бралі ваду ў тэндары паравозаў. Паязды ездзілі з Варшавы ў Вільню цераз Ваўкавыск і адтуль назад тры разы ў суткі.

У час Другой сусветнай вайны паўкіламетра ад станцыі немцы пабудавалі даволі вялікі тартак на чатыры піларамы. У ім працавалі толькі немцы. Яны трачавалі драўніну для сваіх мэт. Для сваіх майстроў пабудавалі домікі. Драўніну прывозілі з лесу перш за ўсё вузкакалейкай.

У 1944 годзе акупанты адступалі. Яны, адыходзячы, руйнавалі і палілі ўсе важныя аб'екты. Разбурылі яны вакзальны будынак (засталіся да сёння толькі ўсходы), вадакачку, масты на рэчцы Нарве, Баброўцы і Нараўцы. Клалі міны пад рэйкі і ўзрывалі іх.

Пасля вайны ў Плянце паставілі вялікі драўляны барак: 42 метры даўжыні і 12 метраў шырыні. Былі ў ім зала чакання для пасажыраў, касы, працоўныя пакоі дзяжурнага руху і касіра, які прадаваў білеты, склад на пасылкі і багаж, буфет, святліца (займала яна плошчу 60 квадратных метраў). Барак быў накрыты толем чорнага колеру. Быў у ім доўгі калідор двухметровай шырыні і, як добра памятаю, скрыпучыя падлогі. Ацяплялі барак кафельныя печы. Выходзіла з яго дзесяць комінаў.

Мне падабаўся драўляны цікавай архітэктуры дом сям'і чыгуначніка Звоніка. За домам можна было схавацца ад ветру і дажджу. Стаяў ён пры самой пуці, так як і барак. Пры імраслі кусцікі бэзу і язміну. А ўвогуле пры дарозе да вакзала расце і зараз многа прыгожых ліп і клёнаў, ёсць і магутны дуб.

Калі мне было каля дзесяці гадоў, бацькі высылалі мяне на вакзал з конаўкай малака або смятаны, сырам. Там малочныя прадукты ахвотна куплялі сем'і чыгуначнікаў. На вакзал бегаў я ў дзень ляўкоўскага прыхадскога свята Пятра і Паўла сустракаць запрошаных гасцей, між іншым, маміну сястру і брата з Гайнаўкі. Часам у нядзелю мы з братам хадзілі на вакзал, каб купіць у буфеце вельмі смачны ліманад ды цукеркі. Чатыры гады (1958-1962) я ездзіў з плянтаўскага вакзала ў Агульнаадукацыйны ліцэй у Гайнаўцы. Тады ездзіла шмат людзей, быў рух, гоман. Хто прыязджаў, а хто адпраўляўся ў дарогу.

У святліцы быў тэлевізар і мы, наваляўкоўцы, у суботнія вечары хадзілі глядзець кінафільмы. Тут актыўна дзейнічаў Гурток вясковых гаспадынь (ладзіў ён курсы кроію і шыцця, пячэння, кулінарныя), арганізавалі двухгадовыя курсы сельскагаспадарчых ведаў і на вадзіцельскія правы (я тут здаў экзамен на вадзіцельскія правы кіраваць матацыклам), курсы для фурманаў і веласіпедыстаў.

Раз у тыдзень — у сераду — у Плянту прыязджала кінаперасоўка. Тут адбываліся акадэміі з нагоды розных святаў, сустрэчы з цікавымі людзьмі, між іншым, з удзельнікамі Кастрычніцкай рэвалюцыі, з пісьменнікамі. Працавала бібліятэка. Было шмат айчыннай і савецкай прэсы. На сцэне выступалі мастацкія вакальныя калектывы. Было гэта прытульнае прыгожае ў сярэдзіне памяшканне. Святліцай шмат гадоў кіраваў Уладзімір Клімюк.

У плянтаўскай святліцы дзейнічаў пару дзясяткаў гадоў вакальна-музычны калектыў. Займаліся ў ім дзяўчаты і юнакі з Плянты, Міклашэва, Сушчага Барка, Нараўкі, Новага Ляўкова і са Скупава. У святліцу купілі музычныя інструменты. Музычным кіраўніком быў Аляксандр Маеўскі. У гурце спявала восем дзяўчат (сярод іх былі салісткі) і крыху менш юнакоў. Найлепшым акардэаністам быў Уладзімір Паўлючук. Калектыў ездзіў з канцэртамі ў Гайнаўку і ў іншыя мясцовасці. Летам танцавальныя вечарыны адбываліся на свежым паветры на пляцоўцы ў засені прыгожых вялікіх сосен, бяроз і клёнаў. А моладзь была ахвотная танцаваць!

Зараз цераз Плянту не ездзяць пасажырскія паязды. 21 лістапада 2012 года знеслі барак. На яго месцы выраслі дрэвы і кустоўе. Ужо разабралі нават некаторыя пуці. Глуха тут і сумна. Толькі халодны зімовы вецер гуляе па пустых пероннах.

У памяці маёй колішні вакзал з яго будынкамі ў Плянце застанецца пакуль буду жыць.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



## Адгаданка

1. светлая пара сутак, **2.** левы прыток Нарвы, які раней быў правым прытокам Віслы, **3.** лёгкаатлетычны снарад кінуты ў... вядро, **4.** калыска з... цыбуком і коўшыкам, **5.** фрыгійскі кароль-пазалотнік, **6.** глядзіць на падлогу зверху, **7.** архітэктурны стыль... готаў?, **8.** насіў ярмо, **9.** загваздка, калі выбар аднога з двух рашэнняў аднолькава складаны, **10.** горад пры зліцці Сажа з Дняпром, **11.** памяшканне для пеўневай сям'і, **12.** карцёжная фігура памяркоўнага рангу.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 7 нумара**

Вёска, заява, зен, Комі, мазь.

Рашэнне: **Зіма як казна — сваё возьме**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 05.03 — 11.03

**(22.03. — 20.04.)** Пераадольванне перашкод прынясе табе прыемнасць, асабліва на дарозе да чыйгосьці сэрца. Будзеш мець энергію, самаўпэўненасць, ахвоту пасапернічаць. Прадставіш сваю думку. Ацэніш цёплыя жэсты. Сонца да 19.03. не апякуецца табою, але нуда табе не пагражае. Не канфліктуй з кіраўніцтвам. На працы поспех цябе не абміне.

**(21.04. — 21.05.)** Не надышоў яшчэ час, каб здабыць свет, але адчуеш, што можаш шмат. Суха ў кампанейскіх кантактах і магчымыя паразы ў любоўных манеўрах. Але пасля 9.03. будзеш мець энергію для жыццёвых выклікаў. 8-12.03. маеш шанцы на карысныя інвестыцыі. З 11.03. бярыся за афармленне важнага. Будзе добры абарот спраў. Варта павысіць кваліфікацыі.

**(22.05. — 22.06.)** У сакавіку — раз сонца, раз навальніца. Зоркі глядзяць крыху коса, дык можа быць нервова. Але не сумнявайся. Удасца паафармляць усе справы ва ўстановах. Пачуццёвае жыццё набярэ румянцу. Хаця 5-7.03. убачыш драпіны на тваёй любоўнай сувязі. На працы старайся з усім спраўляцца; з 11.03. стома. Недахопы ў кашальку — часовыя. Больш прыглядзься да свайго здароўя.

**(23.06. — 23.07.)** 5-7.03. шыкуюцца ўдалыя падарожжы. Калі ёсць канфлікты ў пары, трэба ўсё абгаварыць, паразумецца (5-7.03.). Акалічнасці маглі б быць больш спрыяльныя, але не будзе блага. Да 9.03. не вырашай важнага, асабліва пад уплывам імпульсу. У пачуццях лепш адчакай. Затое прыцягне да цябе сям'ю — можаш спадзявацца частых візіт. Добрая форма. На працы ўдакладні мэты і імкніся да іх, незалежна ад канкурэнцыі. Не турбуйся на запас, асабліва аб тым, на што не маеш уплыву. Пазітыўна стаўся да сябе і свету

**(24.07. — 23.08.)** Адновіш старыя сяброўствы і кантакты. 8-12.03 пакажаш, што ты ў змозе здабыць больш чым думаў. Не пакідай сваіх планаў! Твае прыёмы будуць трапныя і прынясуць канкрэтныя карысці. Пільнуйся, каб з 10.03. не страціць чагосьці, на чым табе вельмі залежыць. Можаш заўважыць, што крыху паправіўся, але не панікуй, толькі крыху менш еж і больш шпацыруй.

**(24.08. — 23.09.)** Шчаслівыя выпадкі дазволяць табе пазбегнуць праблем і выйсці цэлым з розных прыгод. 5-7.03. сустрэнеш даўно нябачаную асобу. 7-9.03. хтосьці запрапануе табе супольную паездку (будзе разлічваць не толькі на супольныя размовы). Прафесійныя справы будуць патрабаваць ад цябе больш высілку, які неабавязкова зменіцца ў задавальненне; не ляпай. Пасля 10.03. прыбудуць новыя сілы. 11.03. можаш пачуць кепскую вестку.

**(24.09. — 23.10.)** Спакоем, паслядоўнасцю і добрай стратэгіяй маеш шанц дасягнуць кожную мэту. Час спрыяе супрацоўніцтву і наладжванню новых знаёмстваў. Крыху можа ўсё перакрыжавацца, але пасля зануздаеш сітуацыю і нават будзеш мець ад таго карысць. Спросцяцца складаныя справы ва ўстановах. Не сядзі ціха на працы, цяпер твая думка можа мець вырашальнае значэнне. Прыліў новых сіл.

**(24.10. — 22.11.)** Шчасце зменлівае, але нішто не папсуе табе добрага настрою. Ключ да поспеху — страсць. Цяпер справішся нават з самымі цяжкімі выклікамі! 5-7.03. параіш камусьці штосьці важнае. 7-9.03. старайся за павышэнне і лепшы заробак. 8-12.03. трапны момант на старт з новым мерапрыемствам. 10.03. прыглядзься ілюзорна слабому працаўніку. Але 11.03. не плануй нічога пад націскам часу.

**(23.11. — 22.12.)** Трэба будзе падзейнічаць. Час спрыяе новым ініцыятывам. Пасля 10.03. прыгадае табе заняцца больш сваім здароўем, але праблемы з ім ужо мінулі. Хваля ўдач! Стральцы з другой дэкады схочуць фармалізаваць свае сувязі. Імпрэзы разгрузяць твой стрэс. На працы крыху запаволь, не лаві ўсіх сарок за хвост. Танцуй!

**(23.12. — 20.01.)** Часцей спатыкайся з людзьмі, якіх любіш. 4-8.03. не спачнеш, пакуль не даб'ешся свайго. 4-8.03. паладзішся з кімсь, з кім паспрачаўся даўно таму. Можаш кінуць кепскія навыкі і фальшывыя перакананні. 7-9.03. у фірме павялічыш прапанову і дойдзеш да большага ліку кліентаў. Больш прыемнасці дадуць табе не грошы, а праца для ідэі.

**(21.01. — 19.02.)** Можаш на пачатку тыдня апынуцца паміж молатам і кавадлам. Новыя магчымасці ў сферы фінансаў, большы заробак (які з прыемнасцю распусціш). З ахвотай будзеш наводзіць парадкі. 5-7.03. чакае цябе сур'ёзная размова; на слова «прабач» ніколі не позна. На рабоце афармляй усе хвасты, каб праз тыдзень усё на цябе не звалілася. Фартуна пры табе! Правядзі дэтаксікацыю свайго арганізма.

**(20.02. — 21.03.)** Шмат працы, але будзеш адчуваць сябе выдатна. Твой спакой будзе неацэнны. Стаў на цвярозасць розуму, не паддавайся эмоцыям. Выйдзеш на простую сцежку. 5-7.03. добрыя весткі і геніяльныя задумы, але 4-7.03 не падпісвай ніякіх важных дакументаў. 7-9.03. спатканні з важнымі людзьмі. Многа нагод для сустрэч. Глядзі аб'явы ў прэсе і інтэрнэце. Ад 10.03. лепшая форма.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

Як гэта магчыма ў цэнтры Еўропы? Каб з аднoй да другой вёскі, якія раптам раздзяляе пяць кіламетраў, трэба дабірацца даўжэй чым у Амерыку. Нават два дні. На прыпрыпяцкім Палессі такія прыклады не рэдкасць і не навіна. Усё з-за таго, што старыя камунікацыйныя шляхі па вадзе, балоце ці сухадоламі, якія служылі тысячы гадоў, зараз закрыты. Я сама два разы грымнула ілбом у нябачны мур. Здавалася, усё будзе проста. Паміж сёламі, куды вёў мой маршрут, ляжала, калі судзіць па палескіх мерках, невялікае балотца. Нейкія пяць кіламетраў, адлегласць — як рукой падаць! Дзве гадзіны спакойнага маршу. Раней, калі яшчэ не было дарог, людзі хадзілі туды праз балота або плылі чоўнам, і нават не ўяўлялі, што можа быць іначай.

Блакада старых камунікацыйных шляхоў змяніла спосаб успрымання прасторы ды развеяла рашучасць туземцаў. Сёння такое падарожжа здавалася немагчымым, рызыкоўным і кашмарна дарагім. Апошняя заўвага датычыць вадзяных падарожжаў па Прыпяці, якія манапалізаваў Прыпяцкі нацыянальны парк. З-за нізкага ўзроўню вады рух на рацэ быў спынены ўжо ад паловы чэрвеня. Дзейнічала тут яшчэ афрыканская лагістыка. Усё даводзілася афармляць з дапамогай знаёмых людзей, якія замест туземцаў, на месца гідаў чамусьці прапанавалі гарадскіх хітруноў. Мой перавозчык застаўляў чакаць некалькі дзён, каб у міжчасе адмовіцца ад паслугі.

— Не паеду, — сцвердзіў канчаткова, — замала вады на рацэ. Прыязджайце вясной, у сакавіку!

* * *

Каб усё было ясна — лагістыка з туземцамі абяцала яшчэ большыя клопаты.

Я паспрабавала выкарыстаць усе магчымасці, каб дабрацца на жаданае месца старой дарогай. У Любашове я села на таксі і паехала ў Свалавічы. Адтуль ужо па балоце хацела дабрацца ў Нобель.

У Свалавічах сустрэў мяне сапраўдны канец свету. Тут канчалася дарога, ды рэальныя магчымасці. Сяло ляжыць на пясчаным беразе Прыпяці. Па рацэ ідзе мяжа між Любашоўскім і Зарачанскім раёнамі. Раней, калі не было адміністрацыйнага падзелу на раёны, тубыльцы дабіраліся праз балота ў госці да сваякоў у Нобель. Пра колішнюю сувязь між мясцінамі гаварылі адны прозвішчы: Шклёды і Хадневічы.

З маёй вандроўкі атрымаўся адзін смех, або як кажуць на Палессі пра абсурдныя сітуацыі — «бочка арыштантаў». У Свалавічах не было людзей зацікаўленых заробкам.

Наймалодшы чалавек у вёсцы меў за пяцьдзясят гадоў. Ён дзіка верашчаў на спалоханую жонку, збіваў запрэжанага ў воз каня і нешта неразборліва балбатаў у мой бок.

На маё шчасце, ён вельмі спяшаў у поле, капаць бульбу.

У сяле не было людзей, каб справіцца з роляй гіда, які праведзе праз балота. Мясціна адмірала на вачах. Большасць будынкаў драмала пад саламянымі стрэхамі, нідзе не было людзей, хатніх жывёл. Толькі на адным панадворку я прыкмеціла старэчу, якая быццам шаманка выседжвала пад ліпкай і размаўляла сама з сабой.

Спачатку я разважала, ці не пайсці праз балота без праваднікa. Мой Нобель знаходзіўся быццам на далоні, усяго пяць кіламетраў. Але добры таксіст, які прывёз мяне ў Свалавічы, схапіўся за галаву і катэгарычна заявіў:

— То я званю на пагранзаставу!

Гэта абазначала шмат непрыемнасцей — арышт, допыты, штраф, а можа яшчэ нешта горшае. Я вярнулася ў Любашоў.

* * *

Па гэтым закутку Еўропы, дзе Прыпяць набліжаецца да беларускай мяжы, каб перасекчы яе ў мясцовасці Нівель, найлепш падарожнічаць пешшу. Але толькі дурны рушыць у такую дарогу без мясцовага праваднікa. Праўда, сякая-такая камунікацыя па сушы існавала, аднак з-за фатальнай якасці дарог ніхто з таксістаў не хацеў ехаць. Яны даказвалі, што каб адолець шэсцьдзясят кіламетраў шчарбатай брукаванкі, трэба ехаць пяць гадзін у адзін бок. Да цаны далічвалі яшчэ кошт патэнцыяльнай аварыі. І нават калі кошт перасякаў сто доляраў, ніхто не хацеў туды ехаць. Я сама хутка падлічыла, што калі паеду навокал на аўтобусе, праз Луцк, Роўна, Сарны, Дубровіцу і Зарэчаны, заплачу ў пяць разоў менш грошай. Праўда на гэта патрачу цэлыя два дні.

Што тут дадаць — мяне не пакідала шчасце ў дарозе.

Калі на змярканні я ўрэшце прыехала ў Роўна, там чакаў аўтобус, які праз пяць хвілін адпраўляўся ў маю Дубровіцу. Чарговае спалучэнне выпадала ў пяць гадзін раніцы, на наступны дзень. Ці трэба лепшы падарунак ад лёсу!

Праўда маё шчасце з перспектывы Беластока выглядала падазроным. Аўтобус, які вёз мяне на поўнач Палесся, быў набіты народам як бочка з селядцамі. Сярод пасажыраў пераважалі сем'і з малымі дзеткамі. У салоне пахла грудным малаком і мужчынскім потам. Ніхто аднак не наракаў на цяжкія ўмовы падарожжа, плач немаўлят, доўгія перапынкі ў раённых пасёлках і больш гарадах. Людзі спажывалі пухкія булкі, смажаныя курыныя сцёгны, памідоры, ды каўбаску, якую раздзіралі на кавалкі ў руках. Маладзён з навушнікамі, які сядзеў ззаду, лузаў сланечнікавыя семкі і бесклапотна выплёўваў лупінне проста на падлогу салона. Шафёр таксама не быў горшы. Ён падкручваў музыку на ўвесь рэгулятар, смаліў цяжкія папяросы і падпяваў салісту, які пяяў шчымлівыя рамансы на яго mp3-плэеры. Усім гэта падабалася.

Я таксама не паспела выйсці са стану нірваны, калі наш вясёлы аўтобус апынуўся ў Дубровіцы.

* * *

У гэтым кутку Еўропы, дзе сустракаюцца дзве вялікія рэкі Случ і Гарынь, лепш заранёў нічога не ўяўляць і не планаваць. Вось у Дубровіцы, якая, паводле маіх меркаванняў, мела ўжо наблізіць мяне да мэты падарожжа, выраслі чарговыя праблемы. У найбольш паінфармаваным месцы, то-бок у гатэлі «Дружба», не ведалі як даехаць у Нобель. З іх горада не было непасрэднага спалучэння. Ветлівыя працаўніцы адміністрацыі абзванілі сваіх сяброўак і сваякоў, але ніхто не ўмеў разблытаць камунікацыйных загвaздак. З іх перспектывы Нобель знаходзіўся ў чорнай касмічнай дзіры, якую прыстойны чалавек абмінае шырокім кругам.

Усе перайmаліся маім лёсам! Аж здарыўся цуд. Нашу размову выпадкова падслухала пакаёўка. Дзяўчына ажно пачырванела ад эмоцый. Як аказалася, паходзіла яна з Ненькавіч, ля беларускай мяжы, непадалёк Нобеля. У яе бліскучых, кемлівых вачах, характэрным лясным палешукам, я прачытала ўзрушанасць і настальгію па родным кутку. Здавалася, яна заўтра кіне работу, каб разам падацца са мной у падарожжа. Яшчэ больш узрушыла яе мэта майго падарожжа, якую я назвала ў адміністрацыі гатэлю. У гэтым месцы трэба паставіць кропку над «і». Я падарожнічала да славутага Сяргея Грахоўскага. Беларускі паэт нарадзіўся і першыя месяцы жыцця правёў у прыпрыпяцкім Нобелі.

— Але за адзін дзень вы не паспееце заехаць і вярнуцца назад, — заявіла заклапочаная паляшучка.

Штось такое здавалася немагчымым у цэнтры Еўропы. Але прыгадаўся вопыт са Свалавіч, і я пакорна прамаўчала. Раніцай на аўтобусе адправілася ў дарогу, ды, каб было смяшней, заблудзілася ў белы дзень, быццам хто вадзіў на зялёным павадку. Відавочна спрацавалі палескія чары, бо дзякуючы памылкам я трапіла ў месцы, пра якія два дні раней магла толькі сніць і марыць. Карацей, я зноў вандравала па балотах, якія раздзялялі Свалавічы і Нобель.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**



# У палескай глыбінцы (75)



ISSN 0546-1960 10